# 2014: Год гасціннасці.
## Не дазваляйце гасцям быць гаспадарамі на сваёй зямлі

№ 1 (838) 8 студзеня 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

Старонка 3



## Мітрапаліт на белым BMW

Старонка 5

# Гульня ў крэдыт

## Падарунак пад ёлачку. Лукашэнку далі $2 мільярды.

**Мінскія медыкі збіраюць подпісы за павышэнне заробкаў.** Старонка 2.

**«Калі б Лукашэнка больш ездзіў, то лепш разумеў бы Еўразаюз».** Старонка 4.

**Саша Варламаў: Мне было агідна ад усяго і ўсіх.** Старонка 9.

# У Мінску пратэстуе хуткая дапамога

Медыкі збіраюць подпісы за **павышэнне заробкаў**.



Мінскія работнікі хуткай дапамогі абураныя складанымі ўмовамі працы, а таксама нізкімі заробкамі. Яны пачалі кампанію збору подпісаў, каб змяніць становішча. «Нас насцярожвае вялікая нагрузка і ўмовы працы ў галіне, што можа прывесці да таго, што неўзабаве не будзе каму выконваць гэту працу», — гаворыцца ў лісце з патрабаваннямі, які актывісты развозяць па станцыях хуткай дапамогі.

«Нягледзячы на частыя напады на работнікаў «хуткай» падчас выклікаў, павышаная адказнасць за гэта для правапарушальнікаў не ўстаноўлена. Грамадзяне, якія паступаюць на службу ў міліцыю, першапачаткова ўсведамляюць небяспеку сваёй працы, а мы ідзем працаваць, каб дапамагаць хворым людзям, а атрымліваем траўмы і нават гінем пры гэтым. Спецыфіка працы хуткай дапамогі абумоўлівае рэгулярныя сутыкненні з людзьмі, якія не ўсведамлюць свае дзеянні, але адэкватнай абароны для нашага жыцця і здароўя няма», — абураюцца ў звароце медыкі.

Яны апелююць да нашмат лепшага стану сілавікоў, якіх «кормяць» з таго ж самага дзяржаўнага бюджэту.

### З кропельніцай у зубах

«Гэты калектыўны зварот выспяваў доўга. Сітуацыя на «хуткай» цягам апошніх двух гадоў значна пагоршылася. Людзі звальняюцца, іх становіцца ўсё меней і меней. А нагрузка на брыгады толькі расце», — скардзіцца адзін з каардынатараў збору подпісаў Віталь Агеенка, фельчар па прыёме і перадачы выклікаў на падстанцыі №4 Мінскай службы хуткай дапамогі. Віталь аддаў працы на хуткай дапамозе 11 гадоў.

«Часам слёзы наварочаюцца, калі не атрымліваецца дапамагчы чалавеку праз банальную адсутнасць працоўных рук — напрыклад, не паспелі прынесці абсталяванне. У машыне яго многа, а як узяць яго з сабой, калі замест чатырох чалавек выязджаюць двое? — працягвае ён. — У брыгадзе мусіць быць чатыры чалавекі. Але насамрэч укамплектаваныя ў нас толькі брыгады рэанімацыі. А вось БІТ-брыгадз (брыгады інтэнсіўнай тэрапіі — **Рэд.**), якія выязджаюць, калі няма магчымасці паслаць рэанімацыю, добра, калі едуць у складзе доктара з фельчарам. Часам ездзяць два фельчары. Напрыклад, 31 снежня ў нас на падстанцыі былі тры брыгады ўвогуле па адным чалавеку... Пра санітараў гаворкі не ідзе — іх увогуле амаль што няма. А як удвух праводзіць рэанімацыю?! Былі выпадкі, калі кропельніцу даводзілася трымаць у зубах».

### 2,2 мільёна за 160 гадзін

Пры гэтым аплата працы ніяк не адпавядае яе аб'ёмам і складанасці, адзначае Віталь. «Я атрымліваю ад 2,2 да 2,7 мільёна рублёў прыкладна за 160 гадзін працы. Гэта адна стаўка, — расказвае ён. — Аднак у асноўным людзі працуюць на паўтары стаўкі, бо заробкі мізэрныя. Праца цяжкая і ў псіхалагічным плане — на выкліках можна нацярпецца і шмат чаго нагледзецца. Такая нагрузка часта прыводзіць да стрэсу і эмацыйнага выгарання. А псіхалагічная служба на падстанцыях наладжана слаба. Праз гэтага людзі таксама сыходзяць з хуткай».

### «Рэпрэсій не было, адмовіўся толькі адзін»

Подпісы пачалі збіраць 24 снежня. «Людзі пазітыўна паставіліся да ініцыятывы, усе нас падтрымліваюць. Але многія баяцца праз начальства, маўляў, можа націснуць кіраўніцтва, даць нязручную змену ці пазбавяць прэміі, а гэта мінус 500-600 тысячаў ад заробку. Адзін з тых, хто далучыўся да звароту, патэлефанаваў і адмовіўся ад подпісу. Але баяцца ў сённяшняй сітуацыі з хуткай ужо проста недарэчна. Дый ніякіх рэпрэсіўных захадаў з боку кіраўніцтва не было», — кажа Віталь.

На руках у яго больш за 250 подпісаў работнікаў «хуткай», яшчэ дзясяткі подпісаў знаходзяцца ў даверaных асобаў.

Будучыню пісьмовага звароту Агеенка пакуль не раскрывае, але кажа, што кампаніяй цікавяцца прадстаўнікі рэгіёнаў, хоць акцыю і не планавалі выводзіць на рэспубліканскі ўзровень.

**Кірыла Хілько**

**Патрабаванні супрацоўнікаў «хуткай»:**

– прыняцце закона аб хуткай дапамозе і вызначэнне статуса работніка хуткай дапамогі;

– страхаванне ад няшчаснага выпадку падчас працы;

– сацыяльныя гарантыі (жыллё, ільготнае пенсійнае забеспячэнне, рэжым працы і адпачынку), аналагічныя тым, што прадугледжваюцца законамі аб вайскоўцах і выратавальніках;

– забарона працы па адным медыцынскаму работніку ў брыгадзе;

– вызначэнне паняцця «неабгрунтаваны выклік», устанаўленне адказнасці за неабгрунтаваны выклік;

– стварэнне ў рэгіёнах навучальных баз для ўдасканалення практычных навыкаў;

– узмацненне адказнасці пры нападзе на работнікаў хуткай дапамогі «пры выкананні»;

– тэрміновае павышэнне заробкаў мінімум у два разы;

– змены ў правілы дарожнага руху: альбо наданне абсалютнага прыярытэту аўтамабілям з уключанымі спецсігналамі, альбо пазбаўленне машын хуткай дапамогі перавагі на дарозе.

## Сцісла

**Ангела Меркель атрымала пералом таза**

Нямецкі канцлер атрымала траўму, катаючыся на лыжах. Праз гэта яна была вымушаная адмяніць усе афіцыйныя сустрэчы і паездкі. Не будзе Меркель і на Алімпіядзе ў Сочы.

**Прэзідэнт Раджаонарымампіяніна**

Экс-міністр фінансаў Мадагаскара Эры Раджаонарымампіяніна стаў кіраўніком краіны, атрымаўшы перамогу ў другім туры прэзідэнцкіх выбараў. Заменжнікам падабаецца яго прозвішча — ажно 20 літар!

**Ад «Еўрабачання» адмовіліся 10 краін**

Еўрапейскія краіны спасылаюцца на эканамічныя праблемы і адсутнасць спонсараў. Ад едзелу ў песенным конкурсе «Еўрабачанне-2014» ужо адмовіліся Славакія, Чэхія, Андора, Люксембург, Харватыя, Кіпр, Сербія, Турцыя, Манака, а таксама Боснія і Герцагавіна.

**ЯМ**

## Рэкамендуем

### Беларуска з Вільні адраджае Беларускі музей Луцкевіча

Відэа: Людвіка Кардзіс працягвае справу жыцця свайго памерлага мужа Сяргея Вітушкі.

**Чытайце на nn.by**

## Апытанне на nn.by

### У якой валюце Вы трымаеце ашчаджэнні?

| | | |
|---|---|---|
| у далярах | 1067 | 60% |
| у еўра | 242 | 14% |
| у беларускіх рублях | 138 | 8% |
| у расійскіх рублях | 48 | 3% |
| укладаю ў нерухомасць | 75 | 4% |
| аддаю перавагу вадкай валюце | 190 | 11% |

Прагаласавала 1760.

## Самае чытанае з 25 снежня да 7 студзеня

1 Кіраўніком БПЦ прызначаны мітрапаліт Разанскі Павел — не беларус

2 Навагодняе 2014 абрашчэнне прэзідзента к беларускаму народу. Ананімная паэма

3 Мітрапаліт Павел у першым інтэрв'ю: Нашто вы навязваеце дэмакратыю?

4 Выпадковы скрыншот з сайта Лукашэнкі — жарт

5 Даруйце за ўсё, я больш не буду: навагодняя прамова рэзідэнта РБ — відэа

6 РПЦ звольніла дыякана Кураева, які звярнуў увагу на гей-скандал у духоўнай семінарыі

7 Улады абмежавалі ўезд на праспект Незалежнасці ў Мінску, каб сарваць «Стоп-падатак»

8 Мітрапаліт і «кранік» як люстэрка расійскіх жаданняў і магчымасцяў у Беларусі

9 Віктар і Дзмітрый Лукашэнкі па навагодняй завядзёнцы выйшлі на публіку разам з сем'ямі

10 Кіроўца мінскага аўтобуса трапіў за год у 20 аварый і выклаў іх на Youtube — відэа



# Кіраўніком БПЦ стаў небеларус, які ніколі і не жыў у Беларусі

**Іерарх з Разані** быў прызначаны мітрапалітам Мінскім і Слуцкім.

### Нечаканае прызначэнне

Тое, што мітрапаліт Філарэт хворы і яму хутка спатрэбіцца замена, ведалі ўсе. Канечне, у такой сітуацыі абмяркоўваліся магчымыя варыянты. Называлася імя протаіерэя Фёдара Поўнага. Хоць ён не з'яўляецца манахам. Аднак царкоўныя людзі не адкідалі такі варыянт, што Фёдар разам са сваёй жонкай могуць разам сысці ў манастыр. Пагаворвалі нават, што на кандыдатуры Поўнага настойваў асабіста Аляксандр Лукашэнка.

З беларускіх епіскапаў найчасцей згадваўся Гурый, кансерватыўны епіскап Навагрудскі. Узгадвалі пра беларускія карані епіскапа Наўгародскага Льва Цярпіцкага (нарадзіўся ў Стаўпецкім раёне) і Ніжагародскага Георгія Данілава (родам са Жлобіна).

Аднак мала хто чакаў, што новым мітрапалітам стане чалавек, які да гэтага зусім ніяк не быў звязаны з Беларуссю.

### «Праваслаўны сталінізм»

Самыя вядомыя выказванні мітрапаліта Паўла датычаць тэмы сталінізму, у тым ліку ў колах праваслаўнага духавенства.

«Нюрнбергскі працэс асудзіў пасля Другой сусветнай вайны фашызм, а вось ленінізм, марксізм, атэізм, сталінізм, на жаль, да гэтага часу не асуджаныя. Не было дадзена палітычнай, ідэалагічнай ацэнкі. А трэба было гэта зрабіць, бо вялікая колькасць людзей — мільёны, дзясяткі мільёнаў — загінула з-за гэтай ідэалогіі. Гэта багаборніцкія, антычалавечая ідэалогія.

Ідэалогія атэізму, марксізму, ленінізму і сталінізму нанесла каласальную шкоду. І да гэтага часу, дарэчы сказаць, атэізм нішчыць велізарную колькасць душ чалавечых. Што да неасуджальнага стаўлення некаторых святароў да сталінізму... Сярод нашага брата таксама ёсць розныя людзі».

Што ж, калі мітрапаліт Павел працягне гнуць сваю лінію і ў Беларусі, дзе не было дэкамунізацыі, то справаў у яго будзе вельмі многа.

### Вяртанне старых назваў

Мітрапаліт Павел з'явіўся на свет у Карагандзе. Ягоная сям'я была рэпрэсаванай. Хрысціў яго там у маленстве старац Севасцьян (Фамін), пасля далучаны да святых.

Мітрапаліт выказваў ініцыятыву, каб Валгаграду была вернутая назва Царыцын, якая існавала ад 1589 да 1925. «Старым гарадам трэба вяртаць іх ранейшыя імёны, у гэтым будзе выяўляцца пераемнасць наша».

Цікава, ці выступіць мітрапаліт за перайменаванне Дзяржынска ў Койданава?

### Служэнне ў Амерыцы

Мітрапаліт Павел вельмі працяглы час служыў не ў Расіі. Яшчэ ў 1980-я прадстаўляў РПЦ у Іерусаліме (што дае падставы на розныя здагадкі). Амаль адразу з развалам Савецкага Саюза ён быў прызначаны епіскапам Зарайскім. Гэтае епіскапства месціцца ў ЗША (наведваў таксама прыходы ў Канадзе і Мексіцы). Потым працаваў у Вене. У Расію вярнуўся толькі ў 2003-м.

«На мяне вельмі вялікае ўражанне зрабілі адносіны вернікаў паміж сабой і са сваімі пастырамі пасля набажэнстваў, пра што я часта распавядаю ў Разані. Вось гэта — сапраўдная супольна! Гэта не нашы праваслаўныя храмы ў Расіі, куды людзі прыходзяць толькі памаліцца, а пасля службы адразу разыходзяцца па сваіх хатах. Я ніколі не рабіў розніцы паміж рускамоўнымі і англамоўнымі прыходамі», — узгадваў мітрапаліт пра службу ў ЗША.

### Навошта вы навязваеце дэмакратыю?

Гэта не замінае мітрапаліту ганіць заходняе грамадства і гаварыць пра яго разлад. У Расеі ён быў вядомы вельмі нацыяналістычнымі, імперскімі поглядамі.

«Ні ў кога, можа быць, нават не ўзнікне думкі змяніць кірунак, па якім сёння ідзе беларускі народ і Беларусь у цэлым. Я буду рабіць усё магчымае, каб мір і благаславенне перабывалі на благаслаўлёнай беларускай зямлі», — заявіў мітрапаліт Павел у першым інтэрв'ю пасля прызначэння.

«Калі гэта дэмакратыя — заходняе дабро, нашто вы так навязваеце яго рознымі шляхамі і падкупляеце?»

Таксама мітрапаліт выказаўся, што пастараецца вывучыць беларускую мову, «наколькі ўдасца». На першай літургіі ён прывітаў паству словамі «Са святам!».

**Зміцер Панкавец**

### Даслоўна

**Кранік чарнобыльскі**

«Тое, што адбываецца ў нас, у Расіі, — сходы, пратэстоўцы, ведаеце, у мяне таксама выклікае пачуццё жалю. І я думаю, гэта не без удзелу заходніх спецслужб. Але хацеў бы звярнуцца і сказаць тым, хто ладзіць гэтыя аранжавыя, ружовыя рэвалюцыі, іншыя рэвалюцыі, хацеў бы папярэдзіць, што Расія — гэта вам не Грузія, гэта вам не Украіна, не Егіпет і Лівія. У Расіі цяпер існуе аграмадная колькасць сродкаў масавага знішчэння. У нас ёсць і атамная, і бактэрыялагічная зброя. І ў адрозненне ад амерыканцаў, нашым, рускім, людзям... У нас вялікая колькасць людзей, якая мае патрэбу ў нармальным ладзе жыцця. І для большасці рускіх людзей, як кажуць у народзе, жыццё ламанай капейкі не каштуе. Будуць нас дапякаць у адчайным стане, калі наш народ будуць заганяць у кут, нам нічога не застанецца, як адкрыць кранік чарнобыльскі, кшталту таго. У такім разе пацерпяць усе: і амерыканцы, і еўрапейцы — а ім ёсць што траціць. У іх, калі хочаце, мікракамунізм ёсць, у іх усё ёсць для нармальнага чалавечага жыцця. У нашага чалавека практычна няма, у большасці прынамсі. Таму з нашым, рускім, народам не варта жартаваць і не трэба штурхаць на правакацыйныя масавыя дэманстрацыі супраць нейкіх вынікаў».

**З інтэрв'ю ў 2011.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Каментар**

## Мітрапаліт і «кранік» як люстэрка расійскіх жаданняў і магчымасцяў у Беларусі

Піша **Андрэй Дынько**.

Расія, калі ёй нічога не застанецца, расказаў мітрапаліт Павел, можа і «чарнобыльскі кранік адкрыць» пры патрэбе.

Хай бы ён у сябе ў Расіі гаварыў, што хацеў. Мы і ведаць не ведалі, што там той мітрапаліт гаварыў у сваёй Разані. Але цяпер яго ў Беларусь — дзе пятая частка засыпаная чарнобыльскім попелам і людзі, у каго ў сям'і быў рак шчытавіцы, як і тыя, хто назаўжды страціў сваю малую радзіму, ведаюць, што гэта такое, — прызначылі ўладыкам. І за адно гэтае выказванне ён рызыкуе застацца ў гісторыі нашай краіны празваным Кранікам...

Аб прызначэнні Паўла ў мітрапаліты Мінскія і Слуцкія абвесцілі 25 снежня — на каталіцкае Божае Нараджэнне. Вось Вам, лацінікі, наш хадзячы мемарандум.

Але пасаджэнне ў Мінску мітрапаліта Паўла — гэта і Лукашэнку званочак. Так, Масква бачыць сваёй суперзадачай у Беларусі — каб і прэзідэнта тут прызначаць, як прызначае іерарха. З разанскіх, карагандзінскіх. Або з мясцовых янычараў. Але каб прызначала Масква! Так, як рабіла некалькі стагоддзяў. Каб не беларускія эліты ці беларуская дынастыя тое вызначала — як хочуць адны, і каб не беларускі народ, як таго дабіваюцца дэмакраты.

А што Лукашэнка можа проціставіць? Прызначэнне мітрапаліта адбылося ў адзін дзень з выдзяленнем Мінску двух мільярдаў даляраў.

У Масквы ёсць і газавы Кран, і нафтавы Кран, і цяпер вось царкоўны Кранік. *Ах да*, і кранік Астравецкай АЭС хутка паставяць.

У Беларусі пакуль няма кіраўніка, які меў бы волю і смеласць будаваць нацыю. У тым ліку дабіцца самастойнасці для праваслаўнай царквы.

Масква прызначыла мітрапаліта, бо на пачатку 1990-х БПЦ не здолела дабіцца права самой выбіраць свайго прадстаяцеля. Украінцы здолелі — мо таму, што на той момант мітрапалітам у Кіеве быў украінец. А беларусы не здолелі — у тым ліку і таму, што мітрапалітам у Мінску быў рускі, які таго не хацеў.

### Апытанне на nn.by

**Што Вы адчулі пры навіне аб прызначэнні мітрапаліта Паўла ў Беларусь?**

| | | |
|---|---|---|
| Радасць | 57 | 2% |
| Надзею | 150 | 5% |
| Гонар | 12 | 0% |
| Горыч | 573 | 19% |
| Смех | 177 | 6% |
| Абразу | 1248 | 41% |
| Нічога | 861 | 28% |

Усяго прагаласавала 3078.

Каб мець свайго мітрапаліта, які б маліўся за нас, беларусаў, грэшных і недастойных, а не за вялікую Расію, трэба мець сваю царкву — вось пра што нам напомніла гэтае прызначэнне (зрэшты, не ўпэўнены, што чалавек, які з такой лёгкасцю разважае пра адкрыццё чарнобыльскага краніка, увогуле моліцца). А каб мець сваю царкву, трэба мець сваю, беларускую ўладу. Аднаго без другога не будзе.

# «Сын апынуўся ў турме за тое, што пайшоў супраць сістэмы»

Палітвязню Міколу Аўтуховічу **51 год.**

7 студзеня Мікола Аўтуховіч сустрэў у турме чарговы дзень нараджэння. Амаль дзесяць год ён не займаецца бізнэсам, але дагэтуль яго ведаюць як прадпрымальніка, які праз барацьбу з карупцыяй і несправядлівасцю апынуўся за кратамі. Карэспандэнты «НН» сустрэліся ў Ваўкавыску, на радзіме Аўтуховіча, з ягонай маці.

### «З дзяцінства быў упартым»

Мікалай Аўтуховіч паходзіць з простай сям'і — бацька быў вайскоўцам, маці працавала спачатку на хлебазаводзе, пасля кухаркай у школе.

У Лідзіі Юльянаўны трагічны лёс. Бацьку забілі немцы — ягоны брат расказаў ім, што той носіць ежу партызанам. Дзядзьку арыштавалі і адправілі ў турму. Як выйшаў, ён з помсты забіў маці Лідзіі. Дзяўчынка сама тады ледзь выратавалася.

«У мяне было цяжкае жыццё, але я заўсёды на першае месца ставіла дзяцей. І лічу, што яны выраслі годнымі людзьмі», — пачынае свой аповед Лідзія Юльянаўна.

Пасля школы Мікола вучыўся на аўтамеханіка ў суседняй Вялікай Бераставіцы. Выдатнікам ніколі не быў, кажа маці, але вучыўся старанна, з дзяцінства быў упартым і мэтанакіраваным. Пасля вучэльні была служба ў ракетных войсках у Саратаве, школа прапаршчыкаў, а затым — Афганістан.

«Два гады там адмучыўся, — расказвае маці. — Дадому прыязджаў рэдка. Камандзіры адпускалі з умовай, каб вёз з сабой труны з салдатамі на радзіму. Дык яму нават ехаць не хацелася. Што можна патлумачыць бацькам, чыіх дзяцей забілі на вайне?»

Па вяртанні на радзіму Мікола задумаўся пра стварэнне сваёй фірмы, бо знайсці прыбытковую працу было складана. У 1990-я у Ваўкавыску «стаялі» некалькі буйных заводаў, супрацоўнікі якіх жылі фактычна з продажу тавараў у Польшчу.

### Першае таксі

«Ён адрамантаваў былыя казармы. Гэта быў яго першы бізнэс — здача ў арэнду памяшканняў, — узгадвае маці палітвязня. — Пасля стаў купляць аўтамабілі. Але ўсе яго ведаюць праз таксі».

Для Ваўкавыска з'яўленне таксапарка стала вялікай падзеяй, бо вырашала праблему з грамадскім транспартам, які не пакрываў увесь горад. А таксі Аўтуховіча прыязджала хутка і ўжо прапаноўвала пасажырам зніжкі і падарункі.

У 2003-м выйшаў прэзідэнцкі ўказ, паводле якога прадпрымальнік не мог наймаць на працу больш за трох супрацоўнікаў. У фірме Аўтуховіча «Таксі 22222» тады працавала 60 чалавек. Іх давялося звольніць і адразу перавесці ў кампанію «Ніка-Транс», зарэгістраваную на жонку прадпрымальніка. Гэтыя дзве фірмы заключылі паміж сабой дамову на аказанне паслугаў. Пазней Аўтуховіча назавуць вынаходнікам схемы, якая дазваляла і атрымліваць прыбытак, і не парушаць закон. Аднак з 2004-га пачынаюцца масавыя праверкі абедзвюх кампаній. Падатковая інспекцыя настойвала на тым, што Аўтуховіч усё ж парушыў закон.

### Дэпутат ад народа

У неспакойны для Аўтуховіча 2004-ы ён вылучаўся кандыдатам у дэпутаты на парламенцкіх выбарах. Гэта была ідэя яго сяброў і калегаў.

У Ваўкавыску дагэтуль памятаюць агітацыйную кампанію — на кожным прыпынку віселі ўлёткі з праграмай кандыдата. Асноўнымі тэзісамі былі свабода прадпрымальніцкай дзейнасці, зніжэнне падатковай нагрузкі на бізнэс і скарачэнне дзяржаўнага рэгулявання.



**Аўтуховіч у Афганістане. Фота з сямейнага альбома.**

Бізнэсовец карыстаўся даверам у выбаршчыкаў, і ўлады імкнуліся перашкодзіць агітацыі. Тады каманда Аўтуховіча стала ездзіць услед за праўладнай кандыдаткай, дырэктаркай мясцовай гімназіі Тамарай Навасад і гутарыць з электаратам адразу пасля яе сустрэч.

Папярэдні падлік галасоў паказаў, што на гарадскіх участках, дзе сядзелі назіральнікі, упэўнена перамог бізнэсоўца. Афіцыйныя вынікі аказаліся іншымі: Навасад налічылі 64%, а Аўтуховічу — толькі 28%.

### Кампрамат на падатковую

Тым часам у прадпрымальніка ішла сапраўдная вайна з падатковай інспекцыяй. Упартасць чыноўнікаў ён тлумачыў тым, што прадставіў на іх у Камітэт па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю інфармацыю, якая сведчыла пра карумпаванасць структуры.

У дакументах былі звесткі і пра хабары, і пра незаконныя праверкі, і пра выкарыстанне службовых паўнамоцтваў. На старшыню падатковай Тамару Стасевіч і яе намесніцу Ганну Міська была заведзена крымінальная справа, але складу злачынства не выявілі.

Але яны працягваюць працу і да сёння. Стасевіч нядаўна павысілі да першага намесніка абласной падатковай інспекцыі, а Міська ўзначальвае інспекцыю па Ваўкавыску. Дарэчы, следчы ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў па Гродзеншчыне Мікалай Аліхвер, які давёў справу Аўтуховіча да суда, эміграваў у ЗША.

А самога Аўтуховіча ў 2006-м абвінавацілі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, а таксама ў ажыццяўленні прадпрымальніцкай дзейнасці без рэгістрацыі і атрымання ліцэнзіі. Яго асудзілі на 3,5 года пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. На волю ён выйшаў на



пачатку 2008-га.

### Пяць гадоў за пяць патронаў

На волі прадпрымальнік знаходзіўся нядоўга — праз год яго ізноў затрымалі. Яму інкрымінавалі падрыхтоўку тэракта, а асудзілі на пяць год за захаванне пяці патронаў, знойдзеных прыператрусе. Яшчэ два месяцы дадалі за тое, што нібыта «не дасядзеў» па першым тэрміне.

Сам Аўтуховіч мяркуе, што яго пакаралі за барацьбу з мясцовымі карупцыянерамі.

Зараз прадпрымальніка ўтрымліваюць у гродзенскай турме як злоснага парушальніка рэжыму.

Летам маці мела спатканне з сынам — дзве гадзіны размаўлялі праз шкло. «Зразумела, што яму там вельмі цяжка, многія хваробы ўзмацніліся, з'явіліся новыя. Але вельмі яго падтрымліваюць людзі — каля 80 чалавек яму піша. Напэўна, у турме больш ніхто так шмат лістоў не атрымлівае. Усе ведаюць, што мой сын невінаваты, ён пакутуе за свае прынцыпы, за тое, што пайшоў супраць сістэмы», — кажа яна.

Да вызвалення Міколы Аўтуховіча застаецца тры месяцы.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч, фота з архіва Лідзіі Аўтуховіч**

**Напішы палітвязню**

230025 г.Гродна, вул. Кірава, 1, турма №1, Міколу Аўтуховічу

# «Калі б Лукашэнка больш ездзіў, то лепш разумеў Еўразаюз»

У Польшчы мяркуюць, што **палітвязняў могуць выпусціць** перад Чэмпіянатам свету.

У польскай экспертнай супольнасці пачынае выспяваць думка аб новай перазагрузцы адносін з рэжымам Лукашэнкі. Аднак усе перакананы, што Еўрасаюз не будзе перакупляць Беларусь і Украіну ў Расіі.

«З суседам нельга размаўляць праз плот», — перакананы Лукаш Бырскі, эксперт Фонда Сцяпана Батуры. Ён кажа, што санкцыі Еўрасаюза ў дачыненні да беларускіх урадоўцаў ні да чаго не прывялі, яны зусім неэфектыўныя.

«Калі б Лукашэнка больш ездзіў, то лепш разумеў бы, што такое Еўразаюз», — перакананы Бырскі. Ён крытыкуе пазіцыю міністра замежных справаў Польшчы Радаслава Сікорскага, які дазваляў сабе адпускаць не самыя прыемныя фразы ў дачыненні кіраўніка Беларусі.

Але ж і Лукашэнка не адмоўчваўся, крытыкі было не менш, чым ад Сікорскага, заўважыў я. «Ведаеце, калі ў дзяцінстве я сварыўся з братам, мы біліся, то бацька, раздымаючы нас, казаў мне: «Ты — старэйшы, разумнейшы, змаўчы».

Пэўныя надзеі выказваюцца адносна чэмпіянату свету. «Калі б палітвязняў выпусцілі перад гэтымі спаборніцтвамі — было б цудоўна». Бырскі выказвае думку, што беларускія палітвязні па прыкладзе Юліі Цімашэнкі маглі б выказаць пазіцыю, што гатовыя знаходзіцца за кратамі, абы працягвалася супрацоўніцтва з Еўрасаюзам.

«У такім выпадку яны проста стануць непатрэбныя рэжыму», — кажа аналітык. Бырскі падзяляе аптымізм Збігнева Бжэзінскага адносна Беларусі. Ён перакананы, што Расія ўсё ж не здольная пераварыць Беларусь.

### «Усход — гэта акно для развіцця»

Малгажата Марцінкевіч, дэпутатка польскага Сейма ад левper радыкальнага Руху Палікоты, доўга расказвае аб нядаўняй паездцы ў Беларусь.

Спадарыня Малгажата прызнае, што ўсход цікавы найперш як вялізны рынак для польскіх тавараў. «Я — жывы прыклад таго, што на ўсходзе можна дзейнічаць». Дэпутатка мае свой дрэваапрацоўчы бізнэс у Малдове. Некалі быў і ў Беларусі.

«Санкцыі? Я не ведаю, добра гэта ці дрэнна. Але нейкая рэакцыя мусіла быць. Асабіста я за тое, каб Лукашэнка паехаў паглядзеў, як жывуць у вольных краінах. Не мне меркаваць: ён кепскі ці добры, але для краіны робіць шмат».

Дэпутатка Марцінкевіч верыць у прыватызацыю, што абяцае Лукашэнка. «Калі расійскі капітал прыйдзе на нафтаапрацоўчыя заводы Беларусі, то Расія больш не будзе пагражаць перакрыць вентыль, бо ёй гэта будзе нявыгадна».

### «Пацяпленне будзе»

Зрэшты, нельга гаварыць, што ўсе гатовыя пачаць перазагрузку адносін з Лукашэнкам. Напрыклад, непрымірымым у гэтым пытанні застаецца былы віцэ-спікер Еўрапарламента Януш Анышкевіч, які шмат разоў быў у Беларусі, ведае многіх апазіцыйных палітыкаў.

«Канечне, санкцыі не працуюць. Але яны маюць сімвалічнае значэнне. Тыя людзі, што знаходзяцца ў спісе, хацелі б паехаць у Францыю ці Кіпр, але не могуць!»

«Пацяпленне будзе, асабліва на фоне тых падзей, што мы бачылі ва Украіне», — лічыць Пятро Касцінскі, былы журналіст газеты Rzeczpospolita, а сёння супрацоўнік Польскага інстытута замежных справаў.

«Калі беларускія ўлады перад Чэмпіянатам свету па хакеі адпусцяць палітвязняў, то замежныя СМІ не будуць асабліва пісаць пра сітуацыю з правамі чалавека ў краіне, а пра іншыя рэчы. Беларусі важна скарыстаць гэты шанец. Азербайджан, напрыклад, не скарыстаў падчас «Еўрабачання», а вось Украіна — скарыстала, калі праводзіла Еўра-2012», — лічыць Рафал Садоўскі з Цэнтра ўсходніх даследаванняў.

Вялікіх прарываў на заходнім накірунку ўсё ж чакаць пакуль не варта. Гаворка вядзецца першым чынам аб спрашчэнні візавага рэжыму для жыхароў памежжа абедзвюх краін. Пытанне, якое доўга вісіць у павестцы дня, але ніяк не вырашыцца станоўча. Гэта магло б быць першым крокам.

**Зміцер Панкавец, Варшава — Мінск**

# Менш толькі ў Малдове і Украіне

Беларускі **мінімальны заробак** падрос, але застаецца меншым, чым у іншых краінах.

Ад пачатку года мінімальны месячны заробак у Беларусі вырас да 1,66 мільёна рублёў. Гэта ў эквіваленце 174 даляры ці 126 еўра. Менш за гэтыя грошы не могуць плаціць ніводнаму работніку. Але толькі калі ён працуе на поўную стаўку — пяць дзён па восем гадзін на тыдзень.

Існаванне мінімальнага заробку — рэкамендацыя Міжнароднай арганізацыі працы, каб прадухіліць эксплуатацыю работнікаў.

Усё больш еўрапейцаў маюць няпоўную занятасць — напрыклад, працуюць штодня па 4-5 гадзін. Такіх работнікаў, у залежнасці ад краіны, можа быць 20-30% ад агульнай колькасці. Таму еўрапейская статыстыка часцяком указвае гарантаваны заробак за гадзіну, а не за месяц.

У Беларусі сітуацыя іншая. Паводле афіцыйнай статыстыкі, «часткова занятых» не больш за 2,5%. Гэта цалкам адпавядае прыярытэтам дзяржаўнай палітыкі — няважна, што грошы малыя, затое плацяць усім.

А што ў іншых краінах? Найлепшыя сацыяльныя гарантыі ўведзеныя ў Люксембургу. Кожны з тамтэйшых некваліфікаваных работнікаў зарабляе штогадзіну больш за 11 еўра. Кваліфікаваны — яшчэ больш, каля 13,3 еўра. Для параўнання, беларускаму «мінімальнаму» работніку для атрымання такой сумы давядзецца працаваць больш за два дні.

Узровень аплаты ў Люксембургу нямоцна адрозніваецца ад заробкаў у іншых багатых краінах Еўропы, напрыклад Нарвегіі ці Швецыі. Аднак у гэтых краінах адсутнічае адзіная мінімальная стаўка. Кожны з прафсаюзаў дабіваецца сацыяльных гарантый для сваіх работнікаў. Падобных правілаў прытрымліваецца з дзясятак краін кантынента.

Узровень мінімальнага заробку для краін былога сацыялістычнага лагеру — $400-500. Такім грошам маглі б пазайдросціць работнікі многіх прадпрыемстваў беларускіх рэгіёнаў.

На адным узроўні з Беларуссю знаходзяцца суседнія Расія і Украіна. Адметна, што Расія нават з пункту гледжання мінімальнага заробку падзеленая на Маскву і не-Маскву. У сталіцы жыхарам гарантуюць у два разы больш, чым у іншых рэгіёнах.

Па-за разуменнем еўрапейцаў застаецца мінімальны заробак у Малдове, які ледзь перавышае 50 еўра.

**Ягор Марціновіч**

| Краіна | мінімальны заробак у еўра | мінімальны заробак у далярах |
|---|---|---|
| Люксембург | 1 921 | 2613 |
| Бельгія | 1559 | 2120 |
| Нідэрланды | 1486 | 2021 |
| Ірландыя | 1462 | 1988 |
| Францыя | 1445 | 1965 |
| Вялікабрытанія | 1293 | 1758 |
| Славенія | 784 | 1066 |
| Іспанія | 753 | 1024 |
| Мальта | 703 | 956 |
| Грэцыя | 684 | 930 |
| Партугалія | 566 | 770 |
| Польшча | 403 | 548 |
| Харватыя | 391 | 532 |
| Турцыя | 360 | 490 |
| Эстонія | 355 | 483 |
| Славакія | 352 | 479 |
| Венгрыя | 336 | 457 |
| Латвія | 320 | 435 |
| Чэхія | 309 | 420 |
| Літва | 290 | 394 |
| Македонія | 197 | 268 |
| Чарнагорыя | 193 | 262 |
| Румынія | 189 | 257 |
| Балгарыя | 174 | 237 |
| Боснія і Герцагавіна | 170 | 231 |
| Сербія | 169 | 230 |
| Албанія | 150 | 204 |
| Расія | 123 еўра, 280 у Маскве | 167; 381 |
| Беларусь | 126 | 171 |
| Украіна | 112 | 152 |
| Малдова | 51 | 69 |

**Гадзіна працы ў Люксембургу каштуе, як два дні ў Беларусі**




Аўстрыя, Данія, Германія, Італія, Нарвегія, Швецыя, Швейцарыя, Кіпр, Фінляндыя, Ісландыя не маюць фіксаванага памеру мінімальнага заробку.

## Лукашэнка прывёз з Масквы паўмільярда

І дамовіўся з Пуцінам на **$2-мільярдны** крэдыт.

Золатавалютныя рэзервы Беларусі ў снежні 2013-га выраслі на $190 мільёнаў і дасягнулі $6,65 мільярда. Для параўнання, год таму ў запасах было на паўтара мільярда больш.

Сальда адмоўнае, валютная выручка скарачаецца, Беларусь патрохі вяртае грошы МВФ, тады як могуць расці рэзервы?

Як выявілася, 31 снежня 2013-га ў Беларусь прыйшлі $440 мільёнаў. Паводле тлумачэння старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай, гаворка вядзецца пра першую частку двухмільярднага крэдыту, пра які дамовіліся Аляксандр Лукашэнка і прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін.

Але інтэрнэт-блогеры падлавілі чыноўнікаў на супярэчнасцях у «паказаннях».

Па-першае, $2 мільярды Пуцін абяцаў пералічыць толькі ў 2014-м, выплата закладзеная ў сёлетні расійскі бюджэт. А грошы прыйшлі яшчэ да боя курантаў.

Па-другое, паводле пагаднення, крэдыт давядзецца аддаваць Расіі толькі пачынаючы з 2017-га. Значыцца, нагрузка ляжа на беларускі бюджэт няхутка.

Яшчэ 25 снежня чыноўнікі казалі, што ў 2014-м давядзецца выдзеліць на вяртанне вонкавых крэдытаў $3,2 мільярда. А 30 снежня рыторыка рэзка змянілася. Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч паскардзіўся, што давядзецца аддаць $3,6 мільярда.

Атрымліваецца, што ў апошнія дні снежня Беларусь недзе «перахапіла» каля $400 мільёнаў да наступнага года, якія давядзецца аддаць ужо сёлета.

Гэтая сітуацыя нагадвае экспрэс-крэдыт памерам $200 мільёнаў, які Аляксандр Лукашэнка «перахапіў» у 2010-м у Азербайджана.

**ЯМ**

## Сцісла

### Латвія перайшла на еўра

Краіна стала 18-й краінай еўразоны. Сярод наступных патэнцыйных удзельнікаў зоны еўра — Літва, Польшча і Румынія. Яны могуць адмовіцца ад сваёй валюты з 2015 года.

### «Еўраопт» — самая прыбытковая прыватная кампанія

За трэці квартал 2013 года ТАА «Еўрагандаль» зарабіла $34 мільёны, гэта максімум для недзяржаўных кампаній. У агульным рэйтынгу беларускіх кампаній з адкрытай справаздачасцю лідзіруюць Мазырскі НПЗ і «Нафтан», якія за квартал атрымалі чыстага прыбытку па $150.

### Сярэдні заробак працягвае падзенне

У лістападзе сярэдні налічаны заробак у Беларусі склаў $577. Ён плаўна змяншаецца ад жніўня, калі сягаў $622. Што да Мінска, то паводле афіцыйнай статыстыкі, у лістападзе ён склаў $757.

### Падзенне цэнаў на нерухомасць скончаецца

Паводле падлікаў Realt.by, сярэдняя цана квадратнага метра па стане на пачатак года складае $1777. Падзенне цэнаў запаволілася. Пры гэтым аб'ём прапановы кватэраў змяншаецца, і хваля попыту можа ўзняць цэны.

### Мінус $650 мільёнаў

Сальда замежнага гандлю таварамі ў лістападзе 2013 склала мінус $647,2 мільёна. Агулам жа ў студзені-лістападзе 2013 адмоўнае сальда дасягнула мінус $4,72 мільярда. Гэта грошы без уліку сплачаных у расійскі бюджэт мытаў за экспарт нафтапрадуктаў.

**ЯМ**

# Навошта становяцца донарамі касцявога мозгу?

«Такая магчымасць — **раз у жыцці**».

Кацярыне Шкор 23 гады. Яна займаецца піярам ды арганізацыяй канферэнцый і семінараў. Кацярына стала донарам касцявога мозгу для 16-гадовага хлопчыка з ракам крыві. Што штурхае на такія сур'ёзныя ўчынкі?

**«Наша Ніва: Як Ваш касцявы мозг прыжыўся ў арганізме хлопчыка?**

**Кацярына Шкор:** Вынік будзе вядомы пазней. Ёсць два асноўныя паказчыкі: лейкацыты і колькасць зноў утвораных клетак касцявога мозгу. Лейкацыты «скакалі», а вось клеткі ў Мікіты памнажаюцца ў геаметрычнай прагрэсіі. Тэндэнцыя станоўчая.

**«НН»: Як праходзіць здача касцявога мозгу?**

**КШ:** Аперацыю рабілі пад агульным наркозам. З паяснічнай вобласці двума шпрыцамі «выцягнулі» неабходную колькасць касцявога мозгу і ўжывілі хлопчыку. Для мяне было проста: заснула і прачнулася.

**«НН»: Страшна не было?**

**КШ:** Са мной размаўлялі дактары, тлумачылі ўсё — таму страху не было. Я разумела, што гэта добрая справа. Нейкіх наступстваў пасля аперацыі, здаецца, няма. Дактары нават не далі апамятацца: хутка правялі аперацыю — у мяне не было часу хвалявацца.

### Донараў не хапае

Па словах кіраўніка Цэнтра гематалогіі і перасадкі касцявога мозгу Анатоля Уса, у Беларусі ў сярэднім праводзіцца 200 перасадак касцявога мозгу і ствалавых клетак у год. Больш за палову — для дарослых. Для тых, у каго знаходзіцца донар сярод родных, перасадка праводзіцца гарантавана. У іншых выпадках не ўсё так хутка.

У Беларусі створаны Нацыянальны рэгістр донараў касцявога мозгу, у якім больш за 14 тысяч чалавек. Лічба павялічваецца, але яна не дастатковая. У Польшчы колькасць патэнцыйных донараў — 500 тысяч, у ЗША — каля 10 мільёнаў.

Па словах Уса, прынята лічыць колькасць трансплантацый на мільён чалавек насельніцтва. Калі ў Беларусі гэта 20, то ў Польшчы гэтая лічба большая ў 2,5 раза, Германіі, Францыі — у 7. У Расіі лічба у пяць разоў меншая за нашу, ва Украіне — у 15 разоў меншая.

Для беларусаў трансплантацыя бясплатная. Замежнікі, у тым ліку расіяне, плацяць. Калі гэта аўтатрансплантацыя (донарам з'яўляецца сам хворы) — гэта каля 30 тысяч еўра; калі донар сярод родных — да 80 тысяч еўра; калі донар не сярод родных — больш за 100 тысяч еўра. У Заходняй Еўропе аперацыя каштуе каля 250 тысяч еўра.

Каб трапіць у Нацыянальны рэгістр донараў, трэба прайсці ДНК-тыпаванне ў Рэспубліканскім цэнтры гематалогіі і перасадкі касцявога мозгу (на базе 9-й гарадской клінічнай бальніцы — Мінск, вул. Сямашкі, 8) ці РНПЦ трансфузіялогіі і медыцынскіх біятэхналогій (Мінск, Даўгінаўскі тракт, 160).





**«НН»: Да працы адразу вярнуліся, ці была нейкая адаптацыя?**

**КШ:** Суткі я знаходзілася ў рэанімацыі. Але гэта не столькі праз неабходнасць, колькі для падстрахоўкі. Каб кантраляваць мае жыццёвыя паказчыкі. Пасля мяне выпісалі, дома была некалькі дзён. «Бальнічны» далі на сем дзён: дзень да аперацыі, астатняе — на аднаўленне.

**«НН»: Гэта першы вопыт здачы касцявога мозгу?**

**КШ:** Канечне. Увогуле, шанец супасці з чалавекам — адзін на шэсцьдзясят тысяч. Такая магчымасць здараецца раз у жыцці.

**«НН»: Як на гэта рашыліся?**

**КШ:** Я здавала кроў. Мне прапанавалі прайсці ДНК-тыпаванне і ўнесці сябе ў банк донараў. А праз нейкі час мне патэлефанавалі, запрасілі на размову з дактарамі. Аказалася, што я на 95% падыходжу для Мікіты. Я адразу пагадзілася стаць донарам касцявога мозгу.

**«НН»: Як доўга займаецеся донарствам крыві?**

**КШ:** У ВНУ нам прапанавалі здаць кроў у межах Дня донара. Але акурат у той дзень не трапіла, а паехала пасля — хутчэй нават з цікаўнасці. Пасля падышла асэнсавана, зразумела карысць ад гэтага — і раз-два на год здаю кроў.

**«НН»: Ваш прыклад у сацыяльных сетках выклікаў шмат пазітыўных эмоцый. А ў рэальнасці нехта пераняў вопыт?**

### Цуда-клеткі

Касцявы мозг — гэта тканка, якая знаходзіцца ўнутры буйных касцей, утрымлівае ствалавыя клеткі, з якіх выпрацоўваюцца клеткі крыві. Калі праводзіцца хіміятэрапія, адбываецца пашкоджанне не толькі хворых клетак, але і здаровых. Пры паспяховай трансплантацыі, касцявы мозг прыжываецца і прадукуе нармальныя клеткі крыві. Гэта з'яўляецца адзіным спосабам лячэння шэрагу захворванняў, напрыклад, раку крыві. Праўда, гэта не ва ўсіх выпадках дапамагае — часам хвароба вяртаецца.

**КШ:** Як мінімум, мне адпісалася знаёмая, што прайшла ДНК-тыпаванне. Некалькі чалавек паведамілі, што ў іх ёсць намер гэта зрабіць. Спадзяюся, што і ў рэальным жыцці будуць наступствы гэтых размоў.

**«НН»: Як Вашыя родныя ставяцца да такога ўчынку?**

**КШ:** Мама спалохалася, а пасля сказала: «Пакуль для цябе гэта бяспечна, рабі гэтую Божую справу». Родныя падтрымалі, хаця, можа, ім і было страшна.

**«НН»: Ці прыносіць донарства грошы?**

**КШ:** Сказаць, што за гэта плацяць, нельга. Бо гэта будзе расцэнена як гандаль органамі. Выдзяляецца 30 базавых велічынь (каля 4 мільёнаў рублёў) для аднаўлення донара пасля здачы касцявога мозгу — на вітаміны, сокі.

Сяргей Макарэвіч

# «На калені! Я такіх, як ты!..»

Адстаўны **палкоўнік міліцыі застрэліў** хлопца.



Не паспела ў Бабруйску сціхнуць жахлівая гісторыя з забойствам 21-гадовай Яні — яе забілі цаглінай, — як новая трагедыя ўскалыхнула горад. 24-гадовы Міхаіл спрабаваў затрымаць чалавека з пісталетам, але загінуў ад яго. Два стрэлы — у жывот і грудзі — здзейсніў адстаўны міліцыянт. Забойства здарылася ў ноч на 26 снежня.

«У 2:22 мне патэлефанаваў сябар. Пытаецца: у Мішу стралялі, што рабіць? Кажу, вязі ў бальніцу, я зараз пад'еду. А хвілін праз пяць ён мне патэлефанаваў і сказаў, што Міша сканаў», — расказвае прыяцель забітага Аляксандр.

«Я з Мішам развітаўся а палове на першую ночы. Ён папрасіў мяне прывезці яго на сустрэчу, а пасля забраць, — працягвае ён. — Па дарозе заехалі на запраўку, выпілі кавы. Міша прапанаваў тады яшчэ пакатацца. Я быў стомлены і адмовіўся, а за стырно сеў другі сябар — у яго былі правы. Мяне адвезлі дадому, а самі паехалі».

Міша з сябрам тым часам вярнуліся на запраўку па піва, але алкаголь ім не прадалі. Тады хлопцы і паехалі ў тую бабруйскую краму «XXI стагоддзе», адкуль адзін з іх не вярнуўся дадому.

Канфлікт пачаўся праз тое, што Міхаіл хацеў схадзіць па малой патрэбе каля машыны: больш не знайшоў куды. Гэта не спадабалася адстаўному міліцыянту, які на добрым падпітку стаяў каля крамы.

«Міша сказаў, што сходзіць у краму, і пасля яны разбяруцца. Выйшаў, а дзеда ўжо не было. Пазнаёміўся з хлопцамі, што там стаялі. А затым вярнуўся дзед, размахваў пісталетам: «На калені! Я такіх, як ты!..» Міша заҳінуўся рукой: «Супакойся, навошта страляць — мірны час...» А дзед прыстрашыў: «Яшчэ крок — і стрэлю», — пераказвае Аляксандр.

Хлопцы пабеглі ў краму выклікаць міліцыю. Патэлефанаваў на 102 і Міхаіл. Пенсіянер, пачуўшы пра міліцыю, сышоў. Хлопцы ж вырашылі не адпускаць сітуацыю. Яны хацелі прасачыць за ім, паколькі ўжо выклікалі міліцыю. Заехалі ў завулак. Міша з машыны выйшаў і паслізнуўся — паваліўся ў бок дзеда. І тут прагучалі два стрэлы...

«Мы знаёмыя з дзяцінства: і ў садок хадзілі разам, і ў школу. Сябры параз'язджаліся з вёскі, а мы толькі ўдвух засталіся ў Каменцы. У Мішы быў такі розум, што мог усім займацца. Апошнім часам ён пераключыўся на машыну. У яго былі «Жыгулі», якія знутры цалкам перарабіў. Даходзіла да таго, што, калі сядаў нехта ў машыну, не мог паверыць, што гэта савецкае аўто», — згадвае Аляксандр.

Міхаіл скончыў універсітэт у Гомелі і па размеркаванні прыйшоў тэхнолагам на Бабруйскі завод трактарных дэталяў і агрэгатаў. Але жыў у роднай Каменцы. Пасля Новага года яго павінны былі павысіць — ставілі начальнікам бюро.

«Вяселле чакалася мінулым летам... Ён хацеў купіць дом, усё ездзіў і глядзеў. Але не падабраў, і вяселле адклалі», — дзеліцца планамі сябар.

Затрыманы — 60-гадовы адстаўны палкоўнік міліцыі. Страляў ён з зарэгістраванага пісталета ІЖ-70. Гэтая мадэль з'яўляецца мадыфікацыяй пісталета Макарава, створаная ў 1990-х як спартыўна-трэніровачны пісталет.

Заведзены дзве крымінальныя справы: за асабліва злоснае хуліганства і забойства. Найбольшае пакаранне — да 15 гадоў турмы.

**Сяргей Макарэвіч**

**Стрэл на Каляды**

25 снежня бабруйчанін збіў сваю сужыцельку і яе малалетняга ўнука. Каб уціхамірыць дэбашыра, выклікалі міліцыю. Але выгляд людзей у форме яго толькі раззлаваў: схапіўся за нож і пагражаў іх забіць. Затрымалі п'янага толькі пасля прымянення табельнай зброі: з раненнем правага калена яго шпіталізавалі. Завялі крымінальную справу за пагрозу забойствам і прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Але адправіцца за краты 32-гадовы бабруйчанін можа не больш, чым на паўгода

# Туркмена, удзельніка бойкі ў Баранавічах, выслалі з краіны

На тры гады яму **забаронены ўезд** у Беларусь.

Канфлікт здарыўся 13 снежня. Тады туркменскія студэнты пабіліся з беларусамі. 15-гадовы падлетак з пераломам рукі трапіў у бальніцу (пра здарэнне чытайце ў «НН» №47).

Гісторыя атрымала працяг. Яшчэ ў вечар бойкі аднаго з туркменаў аштрафавалі на 260 тысяч рублёў за нецэнзуршчыну. А калі «прабілі» па базе, аказалася, што ён ужо меў праблемы з беларускім законам. 19-гадовага студэнта 2-га курса юрфака БрДУ раней затрымлівалі за збіццё дзвюх дзяўчат у Баранавічах. У райцэнтры ён вучыўся, пакуль у верасні не пераверўся ў Брэст. Там засталіся і ранейшыя сябры.

Пасля снежаньскай бойкі аштрафаванага туркмена, якога палічылі завадатарам канфлікту, выключылі з універсітэта. А затым пастанавілі выслаць з краіны: паколькі яго перабыванне «супярэчыць інтарэсам нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маральнасці, здароўя насельніцтва, правоў і свабодаў грамадзян Беларусі і іншых асобаў».

24 снежня ён вылецеў у Туркменістан. Цяпер яму забаронены ўезд у нашу краіну на тры гады.

Пасля таго, як гісторыя з патасоўкай у Баранавічах займела рэзананс, пацярпелы падлетак размясціў у інтэрнэце відэазварот. «Просьба будзе да вас не надта вялікая: не ладзьце масавыя беспарадкі і не чапайце людзей іншай нацыянальнасці», — сказаў хлопец.

**Кастусь Матушыч**

**Вышук**



**Збег спецназавец**

Каля дзвюх гадзін ночы 3 студзеня 22-гадовы салдат родам з Мазыра сышоў з вайсковай часткі ў Мар'інай Горцы, і да гэтага часу пра яго месцазнаходжанне нічога не вядома. Пры сабе Аляксандр Сушчык меў штык-нож і рацыю. Быў апрануты ў вайсковую форму. Хто валодае інфармацыяй аб зніклым, звяртайцеся на: (033) 666-68-56 або 102.



**Верагодна, забілі**

Таццяна Эпішка знікла ў кастрычніку. Яна пражывала ў доме 42 па вул. Жукава ў Гомелі. Мяркуецца, што яе забілі, але цела так і не знайшлі. Прыкметы: на выгляд 25-30 гадоў, рост 165-170 см, хударлявая, бландзінка. Хто валодае інфармацыяй пра месцы знаходжання Таццяны з 14 кастрычніка 2013, звяртайцеся на: (0232) 36-37-46, (0232) 41-09-12.

**Сціслa**

**У расейца забралі аўто за п'яную язду**

На Гродзеншчыне затрымалі кіроўцу, які паўторна сеў за руль нападпітку. Цяпер яму пагражае канфіскацыя аўто. Кіроўца «Сітраена» — ураджэнец Казахстана, грамадзянін Расеі, які жыве і працуе ў Гродне.

**За забойства падлетка будуць лячыць**

Абвінавачанага ў забойстве 13-гадовага мінчука ў верасні 2013-га эксперты прызналі псіхічна хворым. У момант здзяйснення злачынства ён знаходзіўся ў стане поўнай адсутнасці памяці і не мог кіраваць сваімі дзеяннямі. Калі на судзе ўсё пацвердзіцца, 19-гадовага адправяць на прымусовае лячэнне.

**Пагарэў на каровах**

Справу былога намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама перадаюць у суд. Чыноўнік аказваў заступніцтва фірмам, спрыяў заключэнню кантрактаў іх з раённымі гаспадаркамі на пастаўку буйной рагатай жывёлы з Сербіі. За гэта атрымаў хабар — каля $20 тысяч. Кантракты падпісваліся на нявыгадных для беларускіх прадпрыемстваў умовах.

**Пасварыўся з суседзямі і расстраляў іх**

64-гадовы вясковец з Шэметава Смалявіцкага раёна схапіўся за стрэльбу, калі не здолеў давесці суседзям сваю пазіцыю. Стрэліў па людзях, калі ўсе разбегліся стрэліў яшчэ некалькі разоў па вокнах суседскага дома і машынах — параніў 54-гадовага мужчыну і 55-гадовую жанчыну. Затым замкнуўся ў сваім доме. А калі прыехалі міліцыянты, пагражаў забіць сябе. П'янага стралка схапілі ў выніку штурму дома.

**Адшукалі праз шэсць гадоў**

Напярэдадні Новага года з Балгарыі быў экстрадаваны грамадзянін Беларусі, які шэсць гадоў знаходзіўся ў міжнародным вышуку. Ён адшукваўся за разбой: у 2007 на пустцы каля Даўгінаўскага тракта ў Мінску ён напаў на сваю ахвяру, жорстка збіў і забраў мабільны тэлефон. Пасля злачынства беларус хаваўся за мяжой, пакуль яго не затрымалі на румына-балгарскай мяжы.

**КМ**

# Булачак з карыцай больш не будзе?

**Дактары выявілі**, што яна выклікае рак і хваробы пячонкі.



У святочныя дні Еўрасаюз прапанаваў значна знізіць бяспечную норму карыцы — да 15 мг на кілаграм гатовага прадукта ці цеста. Гэта выклікала абурэнне з боку скандынаўскіх краін, якія на Каляды традыцыйна частуюцца булачкамі з карыцай, кожны кілаграм якіх утрымлівае каля 50 мг спецыі.

Еўракамісары спасляліся на даследаванні амерыканскіх навукоўцаў, якія выявілі, што вялікія дозы кумарыну (прыроднага таксіна ў складзе карыцы) могуць выклікаць пашкоджанні пячонкі ў некаторых схільных да гэтага людзей.

Насамрэч, у сапраўднай карыцы, то бок кары цэйлонскага карычніка, утрыманне кумарыну нязначнае. Але сапраўдную карыцу мала хто бачыў: яна дарагая і таму рэдкая. Замест яе на паліцах ляжыць карычнік кітайскі, ці касія. Трубачкі высушанай кары касіі цямнейшыя, грубейшыя і таўсцейшыя за сапраўдную карыцу, а кумарыну ў парашку касіі ўтрымліваецца ў некалькі дзясяткаў разоў больш у параўнанні з карыцай.

Аднак скептыкі называюць рашэнне ЕС паспешным. Брытанскія даследчыкі кажуць, што сярэдні еўрапеец спажывае 0,018 мг кумарыну на кілаграм вагі штодня. Нават азіяты, дыета якіх багацейшая на кумарын, і блізка не падыходзяць да 0,1 мг на кілаграм вагі — дзённага ліміту кумарыну, вызначанага ЕС. Навукоўцы кажуць, што чалавек хутчэй памрэ ад атлусцення, чым адчуе хоць нейкі негатыўны эфект ад булачак з карыцай.

**Кірыла Хілько**

**Фотафакт**

### Амерыканская паштоўка з беларускім матывам

Амерыканскае выдавецтва Image Arts выпусціла калядную паштоўку-разваротку з каляровымі шарыкамі на ялінцы. Цікава, што на шарыках — матывы з беларускіх выцінанак.

У сярэдзіне разваротк — тэкст:

Hope your holidays are trimmed with happy memories. (Спадзяемся, што вашы святы будуць упрыгожаныя радаснымі ўспамінамі.)

Паштоўка, дарэчы, выпушчана ў Кітаі

**Янка Запруднік, Нью-Джэрсі**







## З'явілася беларускамоўная казка для айпадаў

«Зайкава хатка» з інтэрактыўнымі ілюстрацыямі **каштуе $0,99**.

Казка ўяўляе сабой набор інтэрактыўных ілюстрацый Наталлі Чатковай, дапоўненых тэкстам народнай казкі. У чым інтэрактыўнасць? Націскаеш на гадзіннік на сцяне — адтуль вылятае зязюля, націскаеш на мышку — яна робіць нейкія ўласцівыя ёй рухі.

У праграме прыгожая фонавая музыка, а вось казку давядзецца чытаць самому — суправаджальнай агучкі няма.

«Зайкава хатка» каштуе $0,99. За такую ж цану яна даступная і на іншых мовах — англійскай, польскай, рускай і ўкраінскай.

**Ягор Марціновіч**

## Беларус бліскуча перамог у расійскім музычным праекце «Голас»

Сяргей Валчкоў (барытон, каманда Аляксандра Градскага) перамог у другім сезоне папулярнага расійскага музычнага конкурсу «Голас» на Першым канале, фінал якога прайшоў 27 снежня.

У фінале ён не пакінуў шанцаў Наргізу Закіраву — 75% на 25%.

Сяргей Валчкоў нарадзіўся ў Быхаве ў 1988 годзе, вучыўся ў Магілёве, потым з'ехаў у Маскву, дзе скончыў каледж музыкі.

**АГ**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Фальшызацыя

Свой першы ў жыцці высакародны ўчынак я здзейсніў гадоў васьмі ад нараджэння, па дарозе ў школу, у трэці клас. Набліжаўся прыём у піянеры, мяне проста распірала ад жадання здзейсніць высакародны ўчынак.

І вось пашанцавала: я ўбачыў сляпога. Імжэў халодны лістападаўскі дождж, сляпы напружана рухаўся па вузкім тратуары Нямігі, пастукваючы палачкай па баках. Я дагнаў яго: «Давайце я вас праводжу...» — «Дзякуй, хлопчык, не трэба...»

Я ўсё ж учапіўся ў вільготны рукаў ягонага чорнага, не па памеры вялікага, паліто...

З нецярплівасцю я дачакаўся пачатку ўрока і, ускочыўшы з парты, закрычаў: «Фрума Ізральеўна! Фрума Ізральеўна! Я дапамог сляпому!» — «Малайчына, — ухваліла Фрума Ізральеўна. І паморшчылася: — Толькі навошта так гучна пра тое крычаць?!»

Не, наўрад ці я здолею выразна патлумачыць, чаму ўвесь урок я прасядзеў з тварам, залітым чырванню, і чаму сёння ўзгадаў той эпізод. Але хто ведае, па якіх лабірынтах свядомасці блукае наша памяць, які след пакідаюць у ёй нават дробныя, на першы погляд, выпадкі і простыя словы...

Вось і чарнявы хлопчык з дзіцячага санаторыя з ласкавай назвай «Пралеска», што нібыта гуляў з сябрам у шашкі і нібыта не ведаў, які зрабіць ход... Ці ўспомніць ён калісь, як з'явіўся сам прэзідэнт і... — раз... два... і ў дамкі?

Бяспройгрышны ход!

Бяспройгрышны ход — раз на год абдорваць хворых ды кінутых бацькамі дзяцей падарункамі.

Замілаваныя тэлегледачы, удзячныя дзеткі, угодлівыя міністры: «Правільна, Аляксандр Рыгоравіч, усё правільна гаворыце...»

Насамрэч усё фальшыва наскрозь.

За дваццаць гадоў прэзідэнцкай улады — менавіта ў гэтым годзе нас чакае сумны юбілей — мы настолькі прызвычаіліся да фальшывасці абяцанняў, тлумачэнняў, выбачэнняў, увогуле палітыкі, што абыякавасць стала ці не адзінай рысай у адносінах да жыцця, нават уласнага. Пра грамадскае жыццё і казаць няма чаго. Замест яго — «Правільна гаворыце, Аляксандр Рыгоравіч...» Які там «Стоп-падатак»?! «Панакуплялі «Мерсэдэсаў» па 100 тысяч даляраў, а 70 даляраў шкадуюць,» — правільна гаворыце, Аляксандр Рыгоравіч... І пра айчынную медыцыну правільна гаворыце — «Конь не валяўся...»

### Я зусім не супраць, каб прэзідэнт абдорваў дзяцей падарункамі з уласных заробкаў

З чаго ж яна пачалася, гэта фальшывая «правільнасць»? Шмат што прыгадваецца, але найважнейшае сярод іншага — адказ на апошняе пытанне сумнавядомага рэферэндума-96: «Ці згодны Вы, што фінансаванне ўсіх галінаў улады павінна ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэта?»

«Не, не згодны», — адказала пераважная большасць... Вось і пытайцеся цяпер, скуль бяруцца грошы на прэзідэнцкія падарункі і падарункі ад прэзідэнцкіх дзяцей.

Зрэшты, можна здагадацца адкуль — з эканоміі на прыбіральніках Палаца незалежнасці. Вунь які, усім палацам палац! «А ведаеш, колькі там прыбіральнікаў? — з павучальным гонарам пытаецца прэзідэнт ці то ў міністра, ці то ў губернатара. — Усяго пяць!»

Не, я зусім не супраць, каб прэзідэнт абдорваў дзяцей падарункамі з уласных заробкаў. А калі не з уласных, дык дзеткі павінны ведаць, што падарункі ім дорыць не прэзідэнт, а беларускі народ.

Але ў любым выпадку — навошта пра тое крычаць?

За гэтым крыкам не чуваць саміх дзяцей з іх хваробамі і марамі — нямых статыстаў у тэлеспектаклі пад назвай «Прэзідэнт і дзеткі».

Я не ведаю, якія падарункі прывёз прэзідэнт. Але добра ведаю, чаго насамрэч хочуць бедныя беларускія дзеці. Дастаткова выцягнуць шуфлядку з пісьмовага стала і зноўку перачытаць стос лістоў, з якімі яны звярталіся калісь да Дзеда Мароза. Лісты, якія я захоўваю з часоў працы ў беларускім выданні газеты «Труд».

Гэта асобная гісторыя, мо калі-небудзь я раскажу пра яе падрабязна. Нагадаю толькі, што ніхто — ні бізнэсоўцы, ні «галіны ўлады», ні нават айцец Фёдар Поўны з ягоным Домам міласэрнасці не адгукнуліся на просьбу газеты задаволіць веру дзяцей у цуд. І які ж той цуд? Алоўкі, каб маляваць; гітара, каб граць; мабільнік для сястрычкі, бо тая прыкавана да ложка; рыберойд для бацькі-інваліда, бо няма грошай пакрыць дах... З таго, што здолела тады падарыць сама рэдакцыя, я памятаю толькі нейкую прыладу для слыху, без якой немагчыма было зрабіць аперацыю глухой дзяўчынцы...

Якая ж прылада патрэбна, каб пачуць вясковага хлопчыка Колю сямі гадоў, што піша пра сястрычак Олю, Пелагею, Марыю, Ефрасінню, Апалінарыю, каня Ластаўку, казу Ладу, тату, каторы «п'е і з намі не жыве», і маму, каторая «ўмее рабіць усё» і «мы ўсе ёй дапамагаем»?!

«Дзядуля Мароз, — піша хлопчык Коля, — нам вельмі хочацца мець вялікі дом, каб і мы, і конь, і каза былі ўсе разам. І каб у нас былі яшчэ брацік і сястрычка...»

Зрэшты, такі дом ёсць. Той самы Палац незалежнасці. Мо падарыць яго хлопчыку Колю з ягонымі сястрычкамі, мамай, казой Ладай і канём Ластаўкай? І заадно сэканоміць на прыбіральніках.

Бо смецце яны прыбяруць самі.

*kamerton_41@mail.ru*

# Саша Варламаў: **Мне было агідна ад усяго і ўсіх**

Аляксандр Варламаў — вядомы беларускі мадэльер, які быў абвінавачваны ў шэрагу сур'ёзных злачынстваў. 147 тамоў крымінальнай справы, 26 месяцаў за кратамі. Цяпер мадэльер знаходзіцца на падпісцы аб нявыездзе з Мінска, пазбаўлены магчымасці займацца сваёй працай. Мы сустрэліся з Варламавым і пагутарылі пра яго жыццё і філасофію.



НАСТА ХРАПОВІЧ

**Аляксандр Варламаў**

нарадзіўся ў 1955 у Мінску. Былы дырэктар ПУП «Агенцтва моды Сашы Варламава», былы мастацкі кіраўнік цэнтра сучаснага стылю і моды Universum models упраўлення па справах культуры БДУ, былы намеснік старшыні арганізацыйнага камітэта рэспубліканскага фестывалю-конкурсу моды і фота «Млын моды» і начальнік Цэнтра маладзёжнай моды БДУ .

**«Наша Ніва»: Апошні раз я бачыла Вас на беларускіх тыднях моды. Вы выглядалі вельмі сумным і няшчасным. Давалі інтэрв'ю абсалютна без жадання.**

**Аляксандр Варламаў:** Я асцерагаюся людзей, я пустэльнік, які жыве ў сваёй пячоры.

**«НН»: Вы сацыяфоб?**

**АВ:** Можна сказаць і так. Любое з'яўленне на публіцы патрабуе адыгрывання ролі, якой ад цябе чакаюць. Пасля гэтай ролі трэба доўга вяртацца да сябе праз пошукі гармоніі і балансу.

**«НН»: Якім чынам Вы знаходзіце свой баланс?**

**АВ:** Гэта ўзаемаадносіны з Богам. Калі вельмі цяжка і я разумею, што ўласнымі сіламі нічога змяніць не магу і ўсе спробы безвыніковыя, ты проста просіш Бога. І як толькі пачынаеш прасіць, Ён табе дапамагае.

**«НН»: У Вас 2-я група інваліднасці, вы маеце праблемы з хрыбтом. Гэта далёка не ўсё?**

**АВ:** Праблемы амаль з усім. Маё цела самазнішчалася. Зараз я прыбягаю да працэдуры крэасаўны, калі цябе замарожваюць да тэмпературы мінусы 130 градусаў на 3 хвіліны. Гэта дае моцнае ўзварушанне, арганізм пачынае абнаўляцца, гэта як перазагрузка. Дзякуючы гэтаму я жыву. І, канечне, штодня я п'ю абязбольваючы.

**«НН»: У адным з інтэрв'ю я прачытала, што Вы не любіце расказваць пра сваё дзяцінства, сваю сям'ю. Чаму?**

**АВ:** Ды нікому гэта не было патрэбна, вы першая, хто гэтым зацікавіўся.

**«НН»: Тады раскажыце пра свае карані.**

**АВ:** Я нарадзіўся ў Мінску. Мая матуля з Адэсы. Яе бацькам быў грэк, дваранін. Ён меў маёнтак ля Варвараўцы і дом на Прымарскім бульвары. Ён быў прагрэсіўным дваранінам, які ажаніўся са сваёй прыгоннай, што стала вялікім скандалам у іх колах. Дзеці выхоўваліся добра, гралі на некалькіх музычных інструментах, ведалі некалькі замежных моваў. У гэтай сям'і і вырасла мая матуля. Яе бацька быў настолькі прагрэсіўным, што вырашыў стаць галоўным механікам парахода. Але аднойчы адбылася бяда, ён трапіў у параходную машыну, у якой яму адрэзала ногі вышэй за калена. Такім чынам ён стаў перасоўвацца на дошцы з коламі. Ён запіў і прапіў усё. Пасля — вайна, якая адабрала апошняе. Сям'я была вымушана шукаць прытулак па багатых сем'ях.

А з боку бацькі былі мяшчане, якім была падаравана зямля для апрацоўкі ў Мінску. Муж бабулі быў целаахоўнікам цара. Аднойчы тата прыехаў у Адэсу вучыцца ў каледжы электратэхнікі сувязі, дзе пазнаёміўся з матуляй. Прывёз яе сюды, пачалася вайна. Сям'я таты не прыняла матулю, хоць яна была з арыстакратаў, але збяднелых. У выніку матулю гэта дастала, і яна вярнулася ў Адэсу. Але тата паехаў за ёй, угаварыў вярнуцца. І калі яны вярталіся назад на цягніку, падчас бамбардзіровкі, калі цягнік спыніўся, у полі нарадзілася мая сястра.

У 1984 годзе наш дом з садам зраўнялі з зямлёй і пабудавалі на гэтым месцы стадыён. Таму няма у мяне ўжо гісторыі.

**«НН»: А чым у той час займаліся Вашыя бацькі?**

**АВ:** Матуля працавала на паштамце, а бацька пабудаваў кінатэатр «Перамога». Ён быў намеснікам па будаўніцтве.

**«НН»: Якім было Вашае дзяцінства?**

**АВ:** Я ў дзяцінстве амаль не плакаў, ды што там, зусім не плакаў. Гэта тое, што яскрава запомнілася.

## Мне не цікава займацца модай, мне цікава займацца стылем і густам

Матуля мая ніколі мяне не лаяла і ў маё жыццё асабліва не ўмешваліся, рос я пераважна на дахах. Хварэў, праўда, шмат.

**«НН»: У дзяцінстве Вы займаліся харэаграфіяй. З-за гэтага мелі канфліктныя адносіны з бацькам. Ён не падзяляў вашых інтарэсаў?**

**АВ:** Ён лічыў, што мужчына павінен быць брутальным. Хоць я рабіў усё па хаце. Дах ладзіў, печку тапіў, дровы рыхтаваў, усе платы ставіў. Але ён усё роўна лічыў, што мой занятак не адпавядае яго ўяўленням пра сына. А я проста любіў класічную музыку і хадзіў у Палац прафсаюзаў.

**«НН»: Пасля было харэаграфічнае вучылішча.**

**АВ:** Так, там я закахаўся ў цыганачку. І мне трэба было быць самым лепшым, бо яна павінна была абраць самага лепшага. Мне было неабходна вучыцца толькі на пяцёркі па ўсіх прадметах. А пасля летам маю цыганачку забралі. Я прыходжу ў клас, а яе няма. Так знік мой стымул і інтарэс. Тады нас займалі ўжо ў тэатры, столькі ўсяго рабілі, але стала нецікава і сумна, я перастаў вучыцца, і мяне забралі зноў у школу.

**«НН»: А калі пачалі працаваць?**

**АВ:** У школе ў мяне не было сяброў, з аднакласнікамі мне было нецікава, і дзесьці ў 16 год я пайшоў паралельна працаваць на пошту, бо матуля з татам разышліся, трэба было выхоўваць траіх дзетак, таму жылі мы бедна. Шэсць разоў на тыдзень пасля школы я разносіў газету «Вячэрні Мінск». Потым пайшоў у тэатр. Я трапіў у іншы свет. Там размаўлялі пра Хэмінгуэя, Экзюперы, там я знайшоў першых сяброў. Пасля паехаў у Маскву, паступіў ва Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі, але ў выніку я туды не паехаў, а пайшоў працаваць авіяматарыстам на кукурузніку. Далей армія, авіязавод, Германія, дзе я працаваў авіямеханікам. Але тэатр не даваў мне спакою, і я зразумеў, што без яго не змагу, таму разарваў кантракт, і ў 25 год паступіў у Інстытут культуры, дзе адразу амаль стаў малодшым навуковым супрацоўнікам (вывучалі беларускую традыцыйную культуру), атрымліваў павышаную стыпендыю і скончыў з чырвоным дыпломам. Пасля сканчэння ўзначальваў навукова-даследчую лабараторыю. Я ў свой час каля 70 артыкулаў у энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі» напісаў.

**«НН»: Падчас вучобы ў Інстытуце культуры Вас запрасілі працаваць манекенам, як гэта было?**

**АВ:** А адразу на першым курсе нечакана прыйшоў ліст, у якім мяне запрашалі ў Дом моды ў якасці

## У турме я маўчаў суткамі, днямі, месяцамі

манекена. Я дагэтуль стаўлюся да сваёй знешнасці з жахам. Магчыма, таму што з дзяцінства быў у цені, ціхім і лічыў сябе нічога не вартым.

**«НН»: Праца манекенам стала стартам Вашай далейшай кар'еры мадэльера?**

**АВ:** Можна сказаць і так. Стоячы на прымерках, я пачаў цікавіцца ўсім. Чаму такі фасон, чаму такі колер, а не іншы, а чаму яны вырашылі, што гэта добра? Я спачатку гэтага не разумеў. Пасля ездзіў да Зайцава ў Маскву, і ён мне шмат усяго расказваў і паказваў. А з-за таго, што я меў звычку маўчаць і слухаць, то я хутка ўбіраў веды. Так і стаў дызайнерам. Я — самавук.

**«НН»: Вы правялі за кратамі 26 месяцаў. Што адчувалі ў той час, калі былі за кратамі ?**

**АВ:** Я зразумеў, што я ізгой, мяне абыходзілі бокам. Не ведалі нават, як паводзіць сябе. Некалькі чалавек сказалі, што я з месяца зваліўся. Я вырашыў нічога ім не казаць, маўчаў суткамі, днямі, месяцамі, размаўляў толькі з адвакатам. Самымі страшнымі былі думкі пра тое, што маглі закрануць маю сястру. Я павінен быў прызнаць сваю віну. Але я не прызнаў, я не злодзей.

**«НН»: А як да Вас ставіліся сукамернікі?**

**АВ:** Яны мяне не чапалі. Неяк пайшлі размовы, што мяне хацелі «апусціць», я лічыўся на «паўапушчыным» стане, але такім не з'яўляўся. Тым больш я амаль усе 26 месяцаў не падымаўся з ложка.

**«НН»: Пасля таго, як Вы выйшлі адтуль, цяжка было адаптавацца?**

**АВ:** Вельмі цяжка. Мне было агідна ад усяго і ўсіх. Я меў высокапастаўленых знаёмых, дзеці якіх вучыліся ў мяне, і ніхто з іх не дапамог. Мне агідны БДУ, агідныя міністры, у магчымасцях якіх было мне дапамагчы. У маіх сукенках іх дзеці выходзілі замуж. Калі мяне арыштавалі, не было за што наймаць адваката, давялося прадаць аднапакаёвую кватэру, каб мяне ўтрымоўваць. Зараз у мяне пенсія адзін мільён, а з яго вылічваюць па законе пяцьсот тысяч.

**«НН»: Як Вы выжываеце?**

**АВ:** Мяне кормяць, адзенне ў мяне засталося. Нехта кладзе грошы на тэлефон, нехта яшчэ неяк дапамога. Зараз я павінен выплачваць БДУ не адзін мільярд, які мне прыйдзецца выплачваць 700 год.

**«НН»: Разгляд Вашай справы пачаўся ў 2011 годзе, і ў гэты час Вы мелі спробу скончыць жыццё самагубствам.**

**АВ:** Так, я наглытаўся таблетак, але Бог хацеў, каб зазвінеў тэлефон і зайшла мая сястра. Мяне забралі ў Навінкі, дзе я правёў 2 начы.

**«НН»: Можаце вылучыць некалькі іменаў сучасных беларускіх дызайнераў?**

**АВ:** Людміла Лабкова, Святлана Гнедзенак, Алена Фіранчук, Таццяна Марыніч, Апці Эзіеў, Міша Мытнік — тыя людзі, з якімі мне прыемна стасавацца і працаваць.

**«НН»: Як вынік усяму, што для Вас мода і ці ёсць яна ў Беларусі?**

**АВ:** Яе няма, проста няма. Мне не цікава займацца модай, мне цікава займацца стылем і густам. Мая задача — зрабіць стыль даступным. Мода — гэта міжсабойчык, гэта працяг хаджэння шыхтом. А стыль — гэта заўсёды адлюстраванне нашага розуму.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

# Не бойцеся любіць Беларусь

Навагодняе віншаванне чытачам «Нашай Нівы» ад Уладзіміра Арлова

Дарагія сябры!

У гэтыя святочныя дні, як і летась, я найперш думаю пра тых, хто сустракае Новы год у няволі. Хачу, каб мяне пачулі Алесь Бяляцкі, Мікола Статкевіч і ўсе, хто пакутуе за свае погляды.

Як казала адна добрая беларуская вядзьмарка, што была маёй бабуляй: збаў Божа вас ды і ўсіх нас ад пустога коласа, ад рэдкага воласа, ад харчу нязвычнага, ад голасу зычнага, ад нядобрых вачэй і паганых рачэй. Да хуткай сустрэчы на волі!

У мінулым годзе я шмат вандраваў па Беларусі: быў у Прыдзвінні і на Нёмане, плыў з сябрамі па Прыпяці і Сожы.

Душу грэюць успаміны пра нашы непаўторныя, па-беларуску стрыманыя краявіды з іхняй заўсёднай прыхаванаю таямніцаю. Натхняюць згадкі пра сустрэчы з маімі чытачамі і зусім незнаёмымі мудрымі й светлымі людзьмі.

Але памятаецца і іншае.

Не магу забыць пяцікласнікаў з невялікага беларускага гарадка, якія амаль не разумелі беларускае мовы, і такіх самых разгубленых вучняў сталічнае школы.



Прыгадваюцца маладыя супрацоўніцы найцікавейшага палескага музея, для якіх — з іхнімі жабрацкімі заробкамі — праблема не толькі з'ездзіць кудысьці на адпачынак, але нават выбрацца ў Менск на выставу.

Зноў і зноў успамінаюцца дзіўныя манументы, сустрэтыя на чыста падмеценых вуліцах нашых гарадоў і мястэчак — то дамам з сабачкамі, то гурку...

Я не маю нічога супраць салёнага гурочка на навагоднім стале і часам магу загледзецца на прыгажуню з балонкай. Але ж...

Беларусь — гэта не краіна гуркоў і дамаў з сабачкамі.

Для мяне Беларусь здавён была краінаю мужных і таленавітых людзей. Яны збудавалі дзівосныя храмы, замкі і палацы, што увайшлі ў Сусветны спіс культурнай спадчыны. Яны шэсць стагоддзяў назад адстаялі нашу зямлю ад захопнікаў з захаду пад Грунвальдам і 500 гадоў таму разбілі пад Воршай захопнікаў з усходу. Яны не раз, бароначы сваю нацыянальную годнасць і шматвяковую прыналежнасць да Еўропы, паўставалі супраць Расейскай Імперыі.

А дзе помнікі героям тых падзеяў?

Чаму Наваградак так і не дачакаўся бронзавага Міндоўга, як Віцебск не дачакаўся Альгерда? У якім кабінеце пахаваная ідэя стварэння помніка вялікаму князю Вітаўту? Чаму ў Менску не з'явіўся помнік нашаму нацыянальнаму герою Кастусю Каліноўскаму?

Затое Рагачоў замест чаканага вальналюбца Гервасія Выліваха, створанага геніем Уладзімера Караткевіча, аздобіўся чатырохметровым манументам, што ўвекавечыў тамтэйшую згушчонку.

Між тым сучасная навука сцвярджае, што чым глыбейшая сувязь са сваёй культурай, тым мацнейшыя і духоўныя сілы нацыі, і фізічны імунітэт кожнага чалавека.

Забудзем гісторыю — станем бяспамятнымі, не здольнымі адрозніць сябра ад нядобразычліўца. Забудзем мову — станем нямымі.

У 2013-м мы адзначалі 150-годдзе нашага вызвольнага паўстання.

Вы памятаеце пароль каліноўцаў?

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь!

Хачу пажадаць усім нам, каб у новым годзе гэтыя словы зрабіліся нашым дэвізам.

Каб мы любілі сваю краіну, захоўваючы ў сваіх сем'ях мову продкаў. Каб адзначалі свае, а не чужыя гістарычныя святы. Каб глядзелі на свет беларускімі вачыма і не баяліся бараніць сваё: і стараданюю камяніцу — ад бульдозера, і сумлення зароблены рубель — ад новых пабораў.

Толькі тады мы ўсе разам зробім крок насустрач той Беларусі, якая пакуль прыходзіць да нас толькі ў мроях і снах.

Не бойцеся! Не бойцеся любіць Беларусь!

З Новым годам!

**Уладзімір Арлоў**

Сатыра

## Навагодняе 2014 абрашчэнне прэзідэнта к беларускаму народу

«Тарас на Парнасе», «Энэіда навыварат», «Сказ пра Лысую Гару» — беларусы здаўна любілі гумар, бурлеск, пародыю. Таленты пісалі і пішуць. Вось і перад новым годам у рэдакцыю «Нашай Нівы» прыйшла **новая ананімная паэма**. Дух часу прымусіў аўтара напісаць на трасянцы.

Дарагія саацечаственнікі!
Скажам чэсна, без астрот —
Эта быў цяжолы год:
Думаў — будзем в шыкаладзе,
Вышла ўсё наабарот!

Чуць «сасуд» наш не
загнуўся —
Крызіс в мірэ зацянуўся,
Аб'ясню вам без прыкрас,
Што затронуў он і нас.

Нет пакоя ні мінуты —
Очань трудна без валюты,
Баксы ўсе, што я капіў,
Враз народзец раскупіў!

А начальнікі — уроды
Развалілі ўсе заводы!
Эта правакацыя
І срыў мадэрнізацыі!

Плюс калійны беспрыдзел
Ашчуціма нас задзел,
Хоць Баўмгертнер, саплячок,
Нам папаўся на кручок!

І міністры-бюракраты
Тожа сільна вінаваты,
Нам надзелалі бяды —
Затаварылі склады!

Іспалкомскія структуры,
Па славам пракуратуры,
Запаведнікі жулья!
Весь в рабоце толька я!

Самы чэсны, самы строгі,
Башмакі стаптаў в дароге,
Беларусь іскалясіў,
Людзям шчасце прынасіў!

Ад маршрутаў адкланяўся,
Жэстачайшэ разбіраўся,
Увальняў цех і сажаў,
Хто народ мой абіжаў!

Все чатыры поры года
Я трудзіўся для народа!
Верна Родзіне служыў,
Сам пры этам скромна жыў:

На бэушным самалёце
Я матаўся па рабоце
В разныя канцы зямлі,
Гдзе крэдзіты даць маглі.

Нахадзясь в ужаснам стрэсе,
Ездзіў в старам мэрсэдэсе,
Там стучыт всё врэмя што-та,
Дым ідзёт із-пад капота!

Прынімаў гасцей радушна
В рэзідэнцыі бэушнай!
В ней я думаў дзень і ноч:
Чэм ешчо странe памоч?

Не хватала мне ідзей:
Как улучшыць жызнь людзей?
І дапетрыў наканец —
Ім пастрою я дварэц!

Не із імпартнай «парашы» —
Мацер'ялы толька нашы!
І з бюджэту ноль затрат —
Дзеньгі выдаў «старшы брат»!

Смогут абслужыць ево
Трыста чалавек всево!
Вазведзён дварэц мой новы,
Радам вырас цэнтр торговы,

Штоб все зналі, хто здзесь мачо —
Флаг агромны зазвіздзячый!
Ізгатовіў на заказ
З пазалотай унітаз!

Эта плод бальшых трудоў
беларускіх масцяроў!
Сімвал эфекціўнасці,
Міру і стабільнасці!

І севодня, ва дварцэ,
Вся страна в маём ліцэ
Весяліцца, ест і п'ёт,
Атмячает Новы Год!

Ат меня не адставайце,
Чаркі дружна паднімайце,
Хто таста не праізнёс,
Тот шпіон і грантасос!

І, ізлішне гаварыць —
Тост сер'ёзным должан быць!
Вот вам парачка прымераў,
Што бы была з чэм сраўніць:

Прэдлагаю выпіць я
За стабільны курс рубля!
Назрэвает новы тост —
За зарплаты бурны рост!

Штобы Крэмль бабло давал,
Напалняем мы бакал!
За уніччажэнне НАТА
Безуслоўна цяпнуць нада!

За савецкі жызні лад —
Можна грам па пяцьдзясят!
Выпіваем дзвесці грамаў
Проці ўсячаскіх «майданаў»!

Ліш пакой і цішына
Нам в рэспубліке нужна!
За сваю радную ўласць
Можам мы напіцца ўсласць!

Этат тост даёт вам права
В вытрэзвіцель не папасць!
Хто здзесь хочат шчасліў
быць —
Должан очань многа піць!

Ап'яненне памагает
Все няўзгоды пазабыць!
Громка чаркамі звіня,
Мы ўстрычаем год каня!

## Ад шэкеля да балівара

Якая валюта летась была **самай выгаднай** для ўкладаў?

Нацбанк вызначае курс беларускага рубля ў дачыненні да васьмі дзясяткаў валют краін свету. 26 з іх «асноўныя» — іх курс змяняецца штодня пасля таргоў на Беларускай валютна-фондавай біржы. Падчас іх вызначаюцца курсы даляра, еўра і расійскага рубля, а астатнія курсы разлічваюцца аўтаматычна.

Курсы іншых (больш чым 50) валют называюцца Нацбанкам штомесяц.

«Наша Ніва» параўнала афіцыйныя курсы валют з тымі, якія былі год таму. У якія грошы было найвыгадней укладацца?

**ЯМ**

**Топ-5 самых выгадных і нявыгадных валют за 2013 год**

| Валюта | Рост у адносінах да рубля |
|---|---|
| 1. Ісландская крона | 23,5% |
| 2. Ізраільскі шэкель | 19,6% |
| 3. Македонскі дэнар | 17,5% |
| 4. Еўра | 15,8% |
| 5. Балгарскі леў | 15,7% |

| Валюта | Умацаванне рубля ў адносінах да валюты |
|---|---|
| 1. Іранскі рыял | 80,8% |
| 2. Сірыйскі фунт | 79,3% |
| 3. Венесуэльскі балівар | 31,9% |
| 4. Суданскі фунт | 21,8% |
| 5. Аргенцінскае песа | 19,5% |

Лісты

### А дзеці то ўсё разумеюць...

Старэйшую дачку ангажавалі ў гімназіі на хакей: немцы з французамі, нешта такое. Спачатку няўцямка, што за хакей… Потым здагадаўся, пра якую забаўку гаворка: Калядны турнір аматарскіх камандаў. Установачка: каб 8-10 чалавек з класа пайшлі.
А ўвечары яна чуе сюжэт на СТВ пра Калядны хакейны турнір. Лукашэнка там казаў: «Мы все чаще и чаще на улицах, в трудовых коллективах слышим: а нет ли лишнего билетика?»
А дзеці-то ўсё разумеюць...

**Кірыла Пазняк, Мінск**

### Супраць зніжэння парогу яўкі

Я супраць зніжэння парогу з'яўлення на выбары. Дапусцім, прыйдуць самыя абдураныя. Хай іх прыйдзе 10% ад усіх выбаршчыкаў, але 90 88-79-колькі трэба-працэнтаў ад іх прагаласуюць як след. Будуць жа псеўдалічбы, нейкія лічбы, якімі і махаюць, хоць іхні намінальны кошт роўны кавалачку гігіенічнае паперы. От такі куншцюк.

**Мікалай Бусел, народны чытака і селькор (Дуброва, Светлагорскі раён)**

### Ніл Гілевіч за сваю пенсію выдаў 23-тамовы збор твораў

Шаноўная рэдакцыя! Хацелася б праз Вашу газету, якую любіць, шануе і чытае кожны адукаваны беларус, павіншаваць з Новым годам Народнага паэта Беларусі Ніла Сымонавіча Гілевіча. Як яго землячка, стаўлюся да яго творчасці з асаблівым трапятаннем, пазнаю і родныя словы, і родныя вобразы. Даўно не чыталі мы новых вершаў паэта. А таму пажадаю і здароўя, і натхнення.

**Былая настаўніца Марыя Сяўрук, Мінск**

**Ад Рэдакцыі.** Дзякуй за цёплыя словы. А заадно раскажам, што перад Новым годам выйшла апошняя кніга з 23-тамовага збору твораў Ніла Гілевіча, які народны паэт Беларусі выдаваў 10 гадоў за свой уласны кошт, за пенсію.

Вялікіх тыражоў паэт дазволіць не мог. Тры тамы выйшлі па 50 экземпляраў. Некалькі тамоў — па 70, некалькі — па 100.

Паштовая скрынка

**Вользе П-вай з Мінска.** Канфлікт у Ярэмічах Карэліцкага раёна паміж манахіняй і святаром павінны разглядаць царкоўныя ўлады, а не свецкая газета. Матэрыялу для журналісцкага рэагавання ў Вашым лісце не прыведзена.

**Рыгору Ш. з папраўчай калоніі ІК-8 Оршы.** Мы не зможам разабрацца ў дадзенай Вашай гісторыі. Гэта забойства, і разабрацца тут могуць толькі кампетэнтныя органы з дапамогай экспертыз. Звяртайцеся ў адпаведныя судовыя органы.

# Унікальны Васілёў камень

Археолагі знайшлі помнік XVIII ст. з надпісам **беларускай лацінкай**.



Камень з надпісам лацінкай пабеларуску знайшлі ў Горацкім раёне. Археолагі даследавалі курганны могільнік і пабачылі невялікі абеліск з высечанымі словамі: «Памажы, Госпадзе, Васілю року 1750».

Беларускае «г» невядомы Васіль перадаваў лацінскім «h», як і стане нормай пры кадыфікацыі беларускай лацінкі ў пачатку XX стагоддзя. Што да слова «рок», то яно бытавала ў многіх гаворках і выйшла з ужытку толькі паўстагоддзя таму.

Археолагам важна, што помнік дакладна датуецца сярэдзінай XVIII стагоддзя — «цёмнага веку», ад якога амаль не засталося пісьмовых помнікаў на беларускай мове. Традыцыя старабеларускага пісьменства выгасала пад ціскам паланізацыі, а новабеларускае крыніцай забруіць толькі праз 150 гадоў.

Існуе вялікая спакуса звязаць надпіс на помніку з даўняй традыцыяй, якая цягнецца яшчэ з часоў Сярэднявечча. У першай траціне XII стагоддзя на тэрыторыі Беларусі было вядома сем Барысавых камянёў, з якіх захавалася тры. Яны былі створаны, каб увекавечыць імя князя Рагвалода Барыса (сына Усяслава Чарадзея). Падобны да іх Рагвалодаў камень, датаваны 1171 годам. Надпісы амаль адпавядаюць знойдзенаму пад Горкамі: «Госпадзе, памажы рабу свайму Васілію у хрышчэнні імем Рагвалоду сыну Барысаву».

Надпіс на Рагвалодавым камені ад новай знаходкі аддзяляюць шэсць стагоддзяў. Цікава, што ў абодвух выпадках да Бога звяртаецца чалавек з адным і тым жа імем — Васіль. Лексічнае падабенства ў звароце да Бога сведчыць пра адзінства паміж часамі Полацкага княства і позняй Рэчы Паспалітай.

Але існуе і прынцыповае адрозненне. На думку гісторыка Ігара Марзалюка, прафесара Магілёўскага ўніверсітэта і дэпутата савета рэспублікі, каманда якога і знайшла артэфакт 1750 года, камень той з'яўляецца надмагільным. «Надпіс у форме просьбы да Бога пакінуў не невядомы нам Васіль, які адышоў у іншы свет, а яго сваякі. Дарэчы, сям'я з'яўлялася ўніяцкай па веравызнанні», — кажа Марзалюк.

На кургане, дзе адбылася знаходка, людзей хавалі цягам васьмі стагоддзяў: надмагільныя камяні XVIII ст. знаходзяцца на месцы крывіцкага могільніка X—XII ст.

Ігар Марзалюк сцвярджае, што ў Беларусі засталося тысячы надмагільных камянёў такога кшталту (шмат іх было страчана). Яны часта сустракаюцца на тэрыторыі Магілёўшчыны, якая цягнулася да крывіцкіх Полацкага і Смаленскага княстваў. Цяпер супрацоўнікі і студэнты Магілёўскага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова ажыццяўляюць у Горацкім раёне іх інвентарызацыю.

Што тычыцца каменя, месцазнаходжання якога Марзалюк пакуль не раскрывае, дык вакол помніка плануюць зрабіць ахоўную тэрыторыю і паставіць адмысловы знак.

**Сяргей Гезгала, Мікіта Капкоў**

**Кіно**

## Шэрлак пацясніў Хаўза

Сышчык Холмс — найпапулярнейшы герой сусветнага кінематографа. Рэжысёру трэба пастарацца, каб прыцягнуць да яго ўвагу гледача. Холмса пераносілі ў часе, рабілі наркаманам, фрыкам, жанчынай, мянялі Ватсана на японку з прыгожымі нагамі. У гэтым сэнсе брытанскі серыял «Шэрлак» досыць стэрэатыпны. Адзінае, героі дзейнічаюць у нашым часе і Холмс у выкананні Бенедыкта Камбербэтча ўсяго толькі актыўны сацыяпат. Ён цяпер на вяршыні хуткаплыннай медыйнай славы — як доктар Хаўз пару гадоў таму.

У чым сакрэт? Чаму выхад 3-га сезона «Шэрлака» ў першыя дні 2014 стаў сусветнай культурнай падзеяй? Можа, чалавецтву трэба героі? У меру станоўчыя, у меру цынічныя і эгаістычныя, з ідэальным адчуваннем стылю і гэткім жа ідэальным бачаннем мяжы дабра і зла.

Ва ўсе часы ўсё адно і тое ж — нібыта даводзяць стваральнікі серыяла. Тая ж вайна ў Афганістане, з якой вяртаецца Ватсан, тыя ж злачынцы і злачынствы — серыі нават называюцца як класічныя конан-дойлеўскія апавяданні.

Яшчэ адзін пункт, які звязвае нові з старога Холмсаў, — Лондан, «вечны горад», у які таемна заканы галоўны герой.

Хоць сам Шэрлак Холмс — што той, што сучасны — серыял дакладна б не глядзеў. Марнаваць неацэнны час? Раскрываць рэальныя злачынствы намнога цікавей.

**ІН**



**Літаратура**

## Проза новага года

**Пяць навінак**, якія з'явіліся ў кнігарнях за апошнія тыдні.

### Артур Клінаў «Шклатара»

Аўтар раманаў «Малая падарожная кніжыца па горадзе Сонца» і «Шалом», мастак і пісьменнік Клінаў прадставіў чытачам новы раман «Шклатара». Яго дзеянне адбываецца ў канцы 2010. Адзін з інтэр'ераў — будынак на сталічным праспекце Незалежнасці 37а. Цяпер там месціцца галерэя «Ў» і кнігарня «Логвінаў», а раней знаходзіўся пункт прыёму шклатары — адсюль і назва. Героі кнігі — літаратурна-мастацкая багема.

Галоўны герой трапляе на Плошчу 19 снежня 2010. Спрэчы ставіцца да падзей як да карнавалу, ролі ў якім распісаныя. Стаўленне змяняецца, калі на Плошчу трапляюць яго блізкія людзі...

### Віктар Шніп «Сабачыя гісторыі»

Галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп найбольш вядомы як паэт. Аўтар амаль двух дзясяткаў зборнікаў. Асобную старонку біяграфіі Шніпа займаюць «Сабачыя гісторыі», якія ён друкаваў у «НН» у 1996—2002 і 2006 гадах. Гісторыі апублікаваныя ў той паслядоўнасці і рэдакцыі, як былі ў штотыднёвіку. У сціслых апавядах, у якіх дзейнічаюць два героі (Сабака і Граждан), у жартаўлівай ці саркастычнай форме абыгрываецца нейкі эпізод або сітуацыя.

### Уладзіслаў Ахроменка «Музы і свінні»

Згодна са старажытнагрэчаскай міфалогіяй, у бога Зеўса і тытаніды Мнемазіны былі дзевяць дачок — муз, заступніц навук і мастацтваў. У кнігу Ахроменка ўключыў 27 саркастычных навел, кожны сюжэт фармальна датычыць адной з дзевяці музаў.

Аўтар кажа, што ўсе гісторыі спісаныя з жыцця.

### Уладзімір Някляеў «Знакі прыпынку»

Паэт і другі пераможца прэміі Гедройца Някляеў пісаў кнігу амаль дзесяцігоддзе. У 2004 цыкл «Знакі прыпынку» пачаў друкавацца на старонках «НН». Праз пяць гадоў частка запісаў выйшла ў някляеўскіх «Выбраных творах». Укладальнікам поўнага выдання стаў журналіст Сяргей Шапран.

### Вінцэсь Мудроў «Багун»

«Ніхто так бліскуча не бачыць асаблівасці савецкага менталітэту, як Мудроў», — лічыць перакладчык Лявон Баршчэўскі. Сваё 60-годдзе полацкі пісьменнік адзначае кнігай «Багун». Назву кнізе дало аднайменнае апавяданне, падзеі ў якім разгортваюцца ў Заходняй Беларусі пасля 1939-га. Мудроў натуральна перадае псіхалогію вяскоўцаў і з бязлітаснай праўдай адлюстроўвае першыя крокі новай улады.

**Максім Кавальскі**

# Каліноўскі ў Мінску

Піша **Алег Дзярновіч.**

Кінафестываль «Лістапад» сёлета быў адметны паказам першых беларускіх фільмаў, створаных у 1920-я. Усе стужкі гэтых бязгукавых фільмаў студыі «Белдзяржкіно» захоўваюцца ў Дзяржфільмафондзе Расійскай Федэрацыі — былым Дзяржфільмафондзе СССР. Развітвацца са сваімі зборамі кіраўніцтва архіва не збіраецца. Іх аргумент: «Мы гэта ўсё захавалі».

У Беларусі ж аўтэнтычных копій уласных першых стужак няма. Упершыню мы змаглі пабачыць фільмы са стужак дваццатых гадоў — з усімі іх шурпатасцямі, драпінамі, але і з жывым адчуваннем тае эпохі.

Што гэта за эпоха? Першае дзесяцігоддзе пераможнай савецкай улады з НЭПам, беларусізацыяй і індактрынацыяй радыкальнай версіі марксізму. Стужка «Кастусь Каліноўскі» ідэальна ілюструе гэты супярэчлівы палітыка-ідэалагічны мікст.

### Стужка

Фільм «Кастусь Каліноўскі» зняў у 1927 рэжысёр Уладзімір Гардзін (1877—1965), які зрабіў сабе імя ў кінематографе яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы. Тое, што ў беларускі фільм быў запрошаны расійскі рэжысёр, зразумела — у Беларусі яшчэ не існавала кінематаграфічнай базы, фільмы здымалі ў Ленінградзе, у памяшканні былога тэатра «Крывое люстэрка» (канал Грыбаедава, 90/2). Беларуская кінастудыя, пазней названая «Савецкая Беларусь», працавала тут да 1939. Тут Гардзін зняў свайго «Каліноўскага». Нямая карціна з расійскамоўнымі тытрамі мела 7 частак, а здымкі адбываліся ў палацах пад Ленінградам.Стужка мае выразны ідэалагічны пасыл. Яе галоўны герой, правадыр сялянскага паўстання, супрацьстаіць як царскім карнікам, так і шляхецкім інсургентам. Непрыныцце Каліноўскім свайго былога атачэння пераносіцца і на былое каханне — у прысутнасці паўстанцаў-сялянаў Кастусь адмаўляецца пазнаць сваю сяброўку Ядзвігу Скірмунт.

Асобныя сцэны фільма вырашаны ў жанры баевіка — з перастрэлкамі і пагонямі, дзеі фільма адбываюцца на фоне прыгожай прыроды і ў атачэнні цікавай архітэктуры. Гэта касцюміраваны фільм — не так ужо і багата часу прайшло ад звяржэння манархіі, і ўніформа царскай арміі была яшчэ добра вядомая мастакам і акцёрам.

Акцёрскае ядро фільма — гэта сузор'е расійскіх выканаўцаў. У ролі Каліноўскага выступіў Мікалай Сіманаў, панны Ядзвігі — Соф'я Магарыл, пана Сторжынскага — Барыс Ліванаў (бацька «Шэрлака Холмса» Васіля Ліванава). Ці не найлепш прапісаны ў фільме персанаж — Мураўёў-вешальнік у выкананні Кандрата Якаўлева, які меў фенаменальнае падабенства з віленскім генерал-губернатарам.

Нетрывіяльна вырашаны ў фільме эпізод з сабакамі. Вядомы сюжэт — карыкатуры на Мураўёва, дзе ён пададзены ў выглядзе сабакі. Аўтары фільма ўставілі ў стужку сцэну з апрананнем у шляхецкіх сядзібах сабак у мундзіры, якія нагадвалі мундзір генерал-губернатара.

### Дзе здымалі Вільню?

У драматургіі фільма адны з самых значных месцаў — фінальныя сцэны смяротнага пакарання Каліноўскага. Паўстанцкі правадыр быў публічна павешаны ў сакавіку 1864 на Лукішскім пляцы ў Вільні. Да павешанняў Мураўёў меў паталагічную схільнасць: многім паўстанцам, асуджаным на высылку ці расстрэл, ён метадычна замяняў кару на павешанне. У тым ліку Каліноўскаму замяніў кулю на пятлю.

Але дзе можна было здымаць Вільню ў 1927-м? Пытанне не пустое. Сама Вільня знаходзілася па польскі бок мяжы, а класіцыстычныя прадмесці Пецярбурга стылёва не пасавалі. У самой БССР, на той момант, толькі тры вялікія месты маглі пасаваць «на ролю» Вільні — пагоркі Віцебска з багатай уніяцкай архітэктурай, гістарычны цэнтр губернскага Магілёва і Мінск.

Той, хто крыху знаёмы з тапаграфіяй Мінска, у сцэнах пакарання Каліноўскага адразу пазнае наш горад. І нават вызначыць месца, дзе стаяла шыбеніца, — Траецкую гару, на якой яшчэ не было Оперы. З гэтага пагорка мы бачым Верхні горад з Петра-Паўлаўскім саборам, які будзе ўзарваны ў 1936-м, вежамі езуіцкага касцёла (каталіцкай катэдры), касцёла бернардынак (цяпер — кафедральны праваслаўны сабор).

На кару Каліноўскага вязуць з Пішчалаўскага замка — сённяшняй «Валадаркі» — па крывых вулках. Шляхта, якая паліць файкі на балконах, з пагардай адварочваецца ад воза, на якім у кайданах узвышаецца народны герой Кастусь. Габрэі мітусліва замыкаюць свае крамкі на першых паверхах тых жа будынкаў... У другой палове 1920-х гэтыя рэаліі ў Мінску яшчэ існавалі — былі крамкі, даўняя забудова, каваныя краты на гаўбцах, габрэі... Дэкарацыі не спатрэбіліся.

Не адразу, але досыць хутка, да мяне прыйшло разуменне, дзе ж везлі падчас здымак стужкі воз з Каліноўскім. Я ведаў гэтую вулку паводле ацалелых здымкаў, ведаў пра яе паваенны і нядаўні лёс, але не ўяўляў, што яе фільмавалі. Гэта стала для мяне сапраўдным адкрыццём.

Гутарка ідзе пра вуліцу Казьмы і Дзям'яна, ці Казьмадзям'янаўскую, якая ад цяперашняга Свята-Духавага праваслаўнага сабора спускалася да Нямігі і сканчалася каля Менскага замка. Вуліца на крутым схіле была спланаваная з выразнымі закругленнямі — па крывой траекторыі вазам і карэтам было прасцей адолець пагорак. У фільме вулка, якая сапраўды магла б пасаваць да віленскай тапаграфіі, ажывае. Бачыць сцэны жывой спадчыны Менска было для мяне ці не найбольшым уражаннем ад фільма і ўсяго таго дня.


Страта Каліноўскага. Кадр з фільма. На заднім плане — мінскі Верхні горад.


Каліноўскага вязуць на страту. Здымалі на мінскай Казьмадзям'янаўскай вуліцы.

**Усё ў гісторыі звязана, і той, хто спрабуе выкінуць з яе нейкую частку, рызыкуе абваліць увесь дом**

### Вуліца Казьмадзям'янаўская

Казьмадзям'янаўская злучала Верхні горад і раён Замчышча. Назву вуліца атрымала ад праваслаўнага, а потым уніяцкага манастыра Св. Казьмы і Дзям'яна, што некалі знаходзіўся на пагорку, дзе ў 1633 новапрызначаным менскім ваяводаю Аляксандрам Слушкам будзе фундаваны кляштар бернардынак. Слушка перайшоў з кальвінства ў каталіцтва, фундацыя каталіцкага кляштара для яго мела сімвалічнае значэнне.

А манастыр Св. Казьмы і Дзям'яна быў вельмі значным у культурным жыцці Менска — пры ім дзейнічала школа для дзяцей шляхты і мяшчан. Але менскі архімандрыт Афанасій Пакоста вырашыў стварыць новы ўніяцкі рэлігійны цэнтр пры царкве Святога Духа, які б склаў канкурэнцыю праваслаўнаму цэнтру пры царкве Пятра і Паўла. Паступова вакол царквы Святога Духа ўзнік уплывовы ўніяцкі асяродак з мужчынскай і жаночай абіцелямі. Свята-Духаўскі комплекс узводзіўся на Высокім рынку, побач з манастыром Св. Казьмы і Дзям'яна, таму апошні і заняпаў. Але з тапанімікі Менска гэты манастыр не знік, даўшы назву вуліцы.

Манастыр Св. Казьмы і Дзям'яна некалі знаходзіўся на адным канцы вуліцы, а з іншага канца, на Ніжнім рынку, у пачатку XVIII ст. быў узведзены кляштар баніфратаў. Сама невялікая вуліца была шчыльна забудаваная двух- і трохпавярховымі дамамі з крамамі на першых паверхах. Адметныя мураваныя будынкі Казьмадзям'янаўскай мелі ўласныя назвы, напрыклад, Гіндзейская камяніца. З-за крамак, што шчыльна занялі ўвесь схіл, гэты квартал менчукі звалі Цёмныя крамы. Мураваная забудова вуліцы паўстала ў XVIII — першай палове XIX ст., але трасіроўка вуліцы адсылае нас да ранніх часоў, калі пасля вялікага пажару 1547 пачалося будаўніцтва новага гарадскога цэнтра на Верхнім горадзе.

### Імя Скарыны

Казьмадзям'янаўская мае яшчэ адну адметнасць — гэта была першая вуліца Мінска, пераназваная ў гонар Францішка Скарыны. Адбылося тое ў 1926. Але ўжо ў 1933, у выніку згортвання палітыкі беларусізацыі, ёй надалі імя камуністычнага пісьменніка Дзям'яна Беднага. Той ужо быў у няміласці, але для мінскіх уладаў, відаць, значэнне мела сугучнасць назваў — «Казьмадзям'янаўская» і «Дзям'яна Беднага». Трэба было ідэалагічна выверанай выцесніць рэлігійную назву.

Нягледзячы на пераназыванні, да пачатку Другой сусветнай свае гістарычнае аблічча Казьмадзям'янаўская вуліца захоўвала. Яна моцна пацярпела падчас нямецкіх бамбаванняў чэрвеня 1941, пра што сведчаць і здымкі таго часу. Дарэчы, яны добры дакументальны аргумент супраць пашыранага апошнім часам дзіўнага меркавання, што Мінск быў разбураны толькі ў выніку савецкіх бамбаванняў 1943—1944.

Пасля разбору паваенных завалаў на Казьмадзям'янаўскай засталіся тры цэлыя будынкі. Яны былі разбураныя ў 1989 падчас будаўніцтва станцыі метро «Няміга».

Сёння на месцы старажытнай вуліцы — хвалістыя сходы з сістэмаю пляцовак. Мо праекціроўшчыкі спрабавалі стварыць асацыяцыі са старой забудовай? Што ж, месца пазначана. Магчыма, гарадскія ўлады калі-небудзь вернуцца да ідэі аднаўлення адной з найпрыгажэйшых вулак даўняга Менска.

Для нас жа сюжэты з постаццю Каліноўскага, савецкім кінафільмам і старажытнай вуліцай павучальныя — усё ў гісторыі звязана, і той, хто спрабуе выкінуць з яе нейкую частку, рызыкуе абваліць увесь дом. Але, прынамсі, наша памяць з гэтым не пагодзіцца.



**Алег Дзярновіч**
Гісторык. Нар. у 1966.
Аўтар прац па гісторыі, гісторыі культуры, археалогіі Сярэднявечча і Новага часу.

# Пра ката. І не толькі

**Ганна Чакур**. Калядная казка.

Страх адзіноты кату не вядомы. Ён ходзіць па ўласных сцежках, ненавідзіць інтэрнаты і гатовы цярпець прысутнасць іншай асобы са свайго роду хіба што ў сакавіку. І то праз крык агіды...

Не сказаць, каб Надзея Пятроўна моцна баялася адзіноты. Ну, ёсць і ёсць... Такая, прынамсі, нашмат лягчэйшая, чым адзінота ўдваіх. Хаця заставацца адной на святы яна не любіла — несла свае салаты на агульны з сяброўкамі стол. Выключэнне рабіла толькі для Ражаства — яго яна сустракала дома. Не заўсёды адна, але заўсёды ў сваіх сценах.

— Гэта свята сям'і, — калісьці любіла паўтараць яе бабуля. — І дзе б ты ні была, у калядную ноч мусіш сесці за родны стол.

Да Ражаства Надзея Пятроўна заўсёды старанна рыхтавалася. Загадзя накуплівала селядцоў — не сучасных, з перапрэлымі ад кіслаты косцьмі, а сапраўдных, свежазасоленых. Як некалі яе мама — івасюшачак! Здымеш з такой скурку, а там тлушчык — як першы снег, крупкасты, бліскуча-вільготны... Выкладзеш кавалачкамі ў сялёдачніцу, прыцярушыш цыбулькай, капнеш зверху алею — любата!...

І мак. Абавязкова! Не забыць толькі яго замачыць... Потым праз млынок, заліць астуджаным кіпнем і дадаць мёду...

І грыбы... Ну, з гэтым у яе, заядлай грыбарыхі, праблем не ўзнікала: яшчэ з лета на антрэсолях у пакеце з-пад цукру чакалі свайго зорнага часу тонкія пласцінкі старанна высушаных баравікоў. З іх яна рабіла грыбныя катлеты і салату з разынкамі...

Рыба? Канечне. Прычым двух гатункаў: адна талерачка рачной, другая — марской.

Абаранкі ванільныя і гарчычныя, сліжкі рознапамерныя — усё гэта потым укінецца ў макавы настой...

І кісель... Уф! Няпростая гэта справа — зварыць кісель «Як у мамы», каб густы і духмяны — есці з талеркі і лыжкай. Каб з сапраўднага журавінавага морсу. І каб з цукрам угадаць...

І аладкі з яблыкамі, і «вушкі» з грыбамі і з макам... Не, цеста рыхтуем прэсным — ніякіх яек і, барані Бог, масла... Вігілійны стол мусіць быць посным...

Нарэшце ўсё гатова. Засталося растрэсці па стале жменьку духмянага сена, якім штогод яе забяспечвае санітарка Генадзьеўна, і пасцяліць ільняны абрус. Стары. Са слядамі яшчэ маміных страў, адмыць якія не пад сілу нават самым сучасным парашкам...

Добра, цяпер можна расстаўляць смакалыкі. Раз, два, тры... дванаццаць страў на стале. Нармальна — па колькасці месяцаў года...

Так, вечаровую сукенку... Завушніцы з пярлінкамі... Крыху макіяжу... А можна і гусцей — свята ўсё ж такі!

Аплатку пакласці на стол. Вось так... І запаліць свечку...

Усё, загарайся, першая зорка!

Перахрысціўшыся, Надзея Пятроўна ўзяла ў рукі аплатку. Прывычным рухам разламала яе на некалькі кавалкаў: сабе, сыну, бацькам, якіх даўно не было і якія ўсё ж былі — недзе глыбока ў ёй... Пажадала: сыну — здароўя і поспехаў, бацькам — неба і Боскага святла. Прамовіла «Ойча наш» і праглынула свой кавалачак снежна-белага хлябца...

Адно з галоўных правіл вігілійнай вячэры — паспрабаваць кожную страву на стале. Надзея Пятроўна хоць і не была галоднай, але правілы паважала, таму акуратна зачэрпнула з кожнай талерачкі...

Потым яна ўпрыгожвала ялінку. Невялічкую. У калена той прыгажуні, што, бывала, стаяла ў іх раней, калі сын быў малы. І калі яна сама была малой...

Вось гэтую цацку, чырвананосага клоўна, некалі прынёс з гарадской ялінкі яе дзядзька, тады яшчэ малады хлопец. Скраў на пары... А гэты шкляны гадзіннік падарыў муж — прапанову рукі і сэрца ён зрабіў ёй у наваготнюю ноч.. А раскудлачаная радыска з ваты зроблена рукамі сына... Сюды давай, радыска, на самае бачнае месца... Вось так. Цяпер «заснежым» елачку ватай. І запалім яе агеньчыкі...

Усё... Ахвяра споўнена... Засталося яшчэ адно традыцыйнае дзейства — выпіць пя ялінкі бакал шампанскага. Абавязкова «Савецкага паўсалодкага»...

Корак ніяк не хацеў развітвацца з бутэлькай, і перш чым наліць у фужэр віна, Надзеі Пятроўне давялося з ім не на жарт пазмагацца. Ніякіх раздражненняў, загадала яна сама сабе, Бог толькі што нарадзіўся...

Нарэшце корак вымушаны быў здацца, і жанчына змагла апусціцца ў крэсла.

...У нняркім святле кітайскіх агеньчыкаў бурбалкі шампанскага адважыліся на бунт, імкнуліся ўверх — да свабоды, нават не падазраючы, што за межамі келіха іх чакае неіснаванне. «Бедныя-бедныя бурбалкі», — звыкла шкадавала іх Надзея Пятроўна.

...Не, ну возьмем, да прыкладу, хоць бы ката... Ён можа быць падлізлівым, папрашаістым, самазадаволеным... Але ніхто і ніколі не бачыў ката, які б шкадаваў. Ён проста не ўмее суперажываць — не закладзена гэта ў яго- най кіпцюрастай натуры...

А Надзея Пятроўна шкадавала ўсіх і заўсёды.

Сваіх маленькіх пацыентаў: перш чым пачаць ранішні абыход бальнічных палат дзіцячага аддзялення, яна кожны раз набівала кішэні свайго доктарскага халата салодкімі пачастункамі, якімі потым шчодрай рукой адорвала карапузаў; ад «цяжкіх выпадкаў» доктарка не адыходзіла суткамі — сама мерала хвораму малому тэмпературу, сачыла за зменамі ў аналізах, удакладняла лячэнне, ацірала вільготны лобік... І кожны раз, калі пагроза жыццю малога знікала, зачынялася ў ардынатарскай і давала волю слязам палёгкі...

...Свайго былога мужа, які аднойчы паквапіўся на чары юнай спакусніцы і, «прыхапіўшы» машыну ды амаль дабудаваны дом, сышоў ад яе. Маладая жонка аказалася па-сучаснаму кемлівай — абабрала яго як ліпку і выставіла за парог ужо цалкам дабудаванага і абстаўленага ім дома. А старая — сама Надзея Пятроўна — хоць і шкадавала, але назад не прыняла...

...Свякроўку, у кватэру якой давялося вярнуцца былому мужу. І якая рэгулярнымі тэлефоннымі заклікамі «адумайся—пакульне—позна» ўжо моцна стаміла сваю экс-нявестку...

...Сына, які жыве ў далёкім Дубліне: надумаў жаніцца, зарабляе сабе на жытло. А там — чужы менталітэт, неспакойны горад...

...Пабочны гук, што незаўважна для гаспадыні нарадзіўся дзесьці ў нетрах кватэры, выхапіў яе з палону рэфлексіі. Надзея Пятроўна падазрона прыслухалася і, баючыся спраўджання ўласнай здагадкі, устала з канапы...

— Не! Госпадзі! Толькі не гэта! Не ў калядную ноч!

...А па прыхожай ужо плыў маленькім караблікам яе любімы блакітны дыванок з ваннага пакоя. І з крана над умывальнікам біў сапраўдны фантан.

## «Тут жыве дзяўчынка Надзейка, якая верыць у цуды?» — пачаў Дзед Мароз і асекся, убачыўшы мокры падол святочнай сукенкі

Надзея Пятроўна кінулася да вентыля, каб перакрыць ваду, але фарбы бясконцых рамонтаў зрабілі яго нерухомым. Яна схапіла малаток і адвёртку, стукнула ў адным месцы, у другім... Разьба вентыля сарвалася, і ў кватэры забіў яшчэ адзін фантан. Нядоўга думаючы, жанчына закасала падол вячэрняй сукенкі, адкінула какетлівы локан за вуха і, схапіўшы кухонны ручнік, пачала ліхаманкава збіраць ваду...

Недзе хвілін праз дзесяць у дзверы пазванілі. «Сусед, — шчоўкаючы англійскім замком, гаротна ўздыхнула жанчына. — Затапіла... Прыйшоў сварыцца...»

А на парозе стаяў... Дзед Мароз. У чырвоным, падбітым ватай футры. З акладзістай барадой, кіем і з мехам падарункаў. «Тут жыве дзяўчынка Надзейка, якая верыць у цуды?» — пачаў агучваць загадзя падрыхтаваны тэкст «дзядуля» і асекся, убачыўшы мокры падол святочнай сукенкі і блізкі да адчаю выраз твару гаспадыні кватэры.

— Хвіліначку! — ён адсунуў «дзяўчынку» ўбок. І, на хаду здымаючы атласны балахон, паплёскаў па «акваторыі» прыхожай да месца катастрофы.

— У звычайным жыцці я — сантэхнік, — тлумачыў Дзед Мароз, варожачы над водаправодам. — Але займаюся ў народным тэатры. І сёлета столькі заказаў! Як звар'яцелі... Ключа на васямнаццаць у вас выпадкова не знойдзецца? А ад падвала?..

...Святло ў падвальных сутарэннях чамусьці не гарэла, таму Надзеі Пятроўне давялося асвятляць дарогу Дзеду Марозу калядняй свечкай...

Потым ён дапамог ліквідаваць наступствы кватэрнага бедства, вымыў рукі і без асаблівых сантыментаў замест сваёй мокрай кашулі нацягнуў пуловер яе сына. Надзея Пятроўна чамусьці не стала даставаць з шафы іншую сукенку — яна толькі выпрастала з-за вуха локан, які даўно перастаў быць какетлівым, і, апрануўшыся ў штодзённую байкавую пару, прывычна, «з нагамі» ўладкавалася ў мяккім фатэлі.

...Шампанскае хутка скончылася, і да самай раніцы яны елі прысмакі з вігілійнага стала, пілі гарбату ўпрыкуску з цукеркамі, якія доктарка з разлікам на маленькіх пацыентаў заўсёды купляла ў запас, і размаўлялі, размаўлялі, размаўлялі...

Высветлілася: сын з далёкага Дубліна, каб зрабіць прыемнае маці, праз інтэрнэт заказаў для яе візіт Дзеда Мароза.

Які неўзабаве пасля Каляд стаў яго айчымам.

Вось і ўся гісторыя.

— І дзе тут казка? — неўразумела пацісне плячыма расчараваны чытач.

Ну, добра...

Пасля таго, як Надзея і сантэхнік заснулі, у кватэру зазірнуў сапраўдны Дзед Мароз і паклаў паміж імі на падушку вялікі кавалак узаемнага кахання. Праз сон яны прасякнуліся гэтым пачуццём наскрозь. І таму будуць жыць доўга і вельмі шчасліва. І памруць у адзін дзень.

А чалавек... Так ужо ён уладкаваны, што і жыць, і нават паміраць у каханні яму непараўнальна больш утульна. Зрэшты, не толькі чалавек...

Возьмем, да прыкладу, хоць бы ката. Нават ён, меганезалежны і ў крайняй ступені неспагадлівы і эгаістычны, марыць аб шчаслівым каханні. Марыць-марыць... Інакш не крычаў бы з такім адчаем (якая там агіда!) у сакавіку. І не толькі...


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Ганна Чакур**

Журналістка, пісьменніца. Жыве ў Астраўцы.

## ГАНДБОЛ

### Чэмпіянат Еўропы




**12-28 студзеня ў Даніі** адбудзецца мужчынскі Чэмпіянат Еўропы па гандболе. Сярод удзельнікаў — зборная Беларусі. Нашы хлопцы згуляюць усе свае сустрэчы ў Капенгагене. 13 студзеня: Беларусь — Харватыя (пачатак а 20). 15 студзеня: Беларусь — Швецыя (пачатак а 22:15). 17 студзеня: Беларусь — Чарнагорыя (пачатак а 22:15). Пасля гэтых гульняў стане ясна, з кім далей будуць змагацца беларусы. Трансляцыі на тэлеканале «Беларусь-5».

## КАНЦЭРТЫ

### S°unduk

**14 студзеня а 19 на сцэне Тэатра эстрады (Маскоўская, 18А)** — канцэрт гурту S°unduk.

## ВЫСТАВЫ

### Скульптары вачыма скульптара

**У Музеі-майстэрні Азгура (Азгура, 8)** разгарнуўся фатаграфічны праект «Скульптары вачыма скульптара». Яўген Кочаў — аўтар праекта, сам скульптар — становіцца фоталетапісцам беларускай скульптурнай школы XX-XXI стст. На выставе прадстаўлены 19 партрэтаў, якія распавядаюць асабістую гісторыю кожнага персанажа.

### Дух часу і раскошы

**У Мірскім замку дзейнічае выстава «Дух часу і раскошы: мода і стыль 1820-1920-х гадоў»** з прыватнай калекцыі Ігара Сурмачэўскага. Унікальная выстава ўражвае сваім багаццем і разнастайнасцю: шыкоўныя сукенкі, бальныя і вясельныя, у якіх жанчыны Парыжа, Лондана, Вены, Прагі і Нью-Ёрка паланілі не адно мужчынскае сэрца, вытанчаны абутак, разнастайныя жаночыя аксесуары.

### Кастынг

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** можна пабачыць выставу жывапісу Сяргея Грыневіча «Кастынг». Гэта аўтарскае разважанне пра тое, што ў сучасным грамадстве чалавеку значна лягчэй стаць падобным да іншых. Выстава складаецца з дзвюх частак: першая так і называецца «Кастынг» па назве аднаго з твораў, другая — гэта самастойны праект «Стань дзяўчынай Бонда», які ў іранічнай форме дапамагае спраўдзіцца ўніфікаваным дзявочым марам.

### Таямніца ночы

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20)** да 13 студзеня працуе персанальная выстава Гаўрылы Вашчанкі — класіка беларускага мастацтва. На ёй можна пабачыць сталыя работы майстра, што былі створаны цягам апошніх трох дзесяцігоддзяў. «Выстава — плод шматгадовых развагаў, навеяных і бяссоннем, і жыццёвымі эпізодамі, таксама старажытнымі павер'ямі і легендамі. Ноч жа заўсёды хавае мноства таямніц», — тлумачыць назву выставы сам мастак.

### На шчасце

**У галерэі Міхася Савіцкага (пл. Свабоды, 20)** да 15-га можна пабачыць выставу дыванкоўмаляванак Алены Кіш (1889 — 1949) пад агульнай назвай «На шчасце». На шчасце блізкім дарылі калісьці маляванкі ў беларускіх вёсках: з нагоды вяселля, хрэсьбін, улазін. А імя беларускі Алены Кіш унесена ў «Сусветную энцыклапедыю наіўнага мастацтва», прысвечаную стагоддзю дзейнасці французскага мастака-прымітывіста Анры Русо.

## ТЭАТРЫ

### 8 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Оперы і балета** — Снягурка

### 9 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Оперы і балета** — Бахчысарайскі фантан

### 10 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Містар Розыгрыш
**Музычны** — Юнона і Авось
**Оперы і балета** — Бахчысарайскі фантан

### 11 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі
**Лялек** — Малы і Карлсан
**Музычны** — Соф'я Гальшанская
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

### 12 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Лялек** — Малы і Карлсан
**Юнага гледача** — Кот у ботах

### 13 студзеня

**Оперы і балета** — Вялікі навагодні баль

### 14 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Нязваны госць
**Лялек** — Малы і Карлсан

### 15 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Лялек** — Чароўныя падарункі
**Оперы і балета** — Рамэа і Джульета
**Юнага гледача** — Маленькі лорд Фаўнтлярой



### «Пан Тадэвуш»

15, 16, 17 студзеня ў Купалаўскім тэатры прэм'ера «Пана Тадэвуша», паводле твора Адама Міцкевіча. Білетаў на гэтыя дні дастаць практычна немагчыма, затое ёсць шанец узяць квіткі на 19, 20 лютага.

Гэта будзе першая сцэнічная версія паэмы Адама Міцкевіча ў беларускім тэатры. Дзеянне ў творы, перакладзеным Язэпам Семяжонам, развіваецца на працягу пяці дзён 1811 і аднаго дня 1812 года. Апісаныя падзеі адбываюцца на берагах Нёмана напярэдадні прыходу Напалеона на нашыя землі. Пана Тадэвуша сыграе Павел Харланчук, Графа — Раман Падаляка, Тэлімену — Юлія Шпілеўская і Святлана Анікей, Зосю — Марта Голубева і Крысціна Казак.




## КІНО

### У пошуках фота

Неймавернае жыццё Уолтэра Міці
**Рэжысёр:** Бен Стылер
**У ролях:** Бен Стылер, Крыстэн Уіг, Адам Скот, Шон Пен, Кэтрын Хан, Шырлі Маклейн
ЗША, 114 хв.

Уолтэр Міці — загадчык фотаграфічнага аддзела часопіса Life, які закрывае друкаванае выданне і цалкам пераходзіць у віртуальную прастору. Апошні папяровы нумар мусіць быць унікальным, і для яго фатографэкстрэмал Шон О'Конэл дасылае стужку са сваім найлепшым здымкам. Вось толькі той самы кадр выразаны і быццам бы згубіўся, а з фатографам няма сувязі. Пад ціскам новага кіраўніцтва Уолтэр, які ніколі не пакідаў роднага горада, вымушаны выправіцца на пошукі Шона і яго трыумфальнага кадра далёка за межы краіны.

Рымэйк фільма 1947 года, заснаванага на апавяданні Джэймса Тэрбера, звяртаецца да рэаліяў нашага часу. Ён расказвае, што жыццё шараговага прадстаўніка так званага офіснага планктону можа стаць іншым, варта выйсці за межы свайго офіса, краіны, кантынента, адарвацца ад інтэрнэту. І хоць цывілізацыя можа дагнаць такога героя нават у Гімалаях званком мабільнага, але калі ён мае мэту і ідзе да яе нягледзячы ні на што, то жыве сапраўдным жыццём.

**Настасся Уласава**







## ІМПРЭЗЫ

### «Шклатара»

**8 студзеня а 19 гадзіне ў кнігарні «Ў»** адбудзецца аўтограф-сесія Артура Клінава, які выдаў новы раман «Шклатара».

# Дабудавалі «Чыжоўку-Арэну»

Пляцоўка прыняла **першыя гульні**. Тут адбудуцца матчы Чэмпіянату свету па хакеі.





СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Мы строілі-строілі і нарэшце пастроілі», — казаў Чабурашка ў вядомым савецкім мульціку. Тое самае можна сказаць пра «Чыжоўку-Арэну», якая адчыніла свае дзверы 25 снежня.

Адкрыццё арэны пераносілася шмат разоў. Былы міністр унутраных справаў і старшыня федэрацыі хакея Уладзімір Навумаў некалі аптымістычна меркаваў, што будаўніцтва скончыцца ў сярэдзіне 2011 года. Пазней старшыня Мінскага гарвыканкама Мікалай Ладуцька абяцаў адкрыццё ў пачатку 2013-га. Аднак зноў давялося пераносіць. Лукашэнку, па старой савецкай традыцыі, вельмі хацелася адкрыць арэну 7 лістапада. Абламалася і на гэты раз.

Калі глядзець зверху, то «Чыжоўка-Арэна» крыху нагадвае «васьмёрку». Невялікім перашыйкам злучаныя малая пляцоўка і вялікая. Архітэктар Марат Гроднікаў жа казаў, што гэта будзе сімвалізаваць дзве кроплі вады, бо знаходзіцца на беразе возера. Хоць спачатку існавала канцэпцыя «лятаючай талеркі».

Сам Гроднікаў прызнаецца, што на праект яго натхніла рыжская арэна, сваёй зручнасцю і камфортам.

Будаўніцтва арэны суправаджалася незадаволенасцю мясцовых жыхароў, бо для патрэбаў хакеістаў быў высечаны парк, любімае месца прагулак і адпачынку жыхароў Чыжоўкі.

Сілаў адных рабочых не хапала, каб узвесці будынак. Таму даводзілася звяртацца да таннай рабочай сілы ў выглядзе студэнтаў ВНУ. Нават Лукашэнка з малодшым сынам Мікалаем прыязджалі на суботнік. Будавалі ўсёй грамадой, а ў тэрміны здачы ўсё адно не ўкладваліся.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Бо часам на будаўніцтве з'яўляліся «шкоднікі». Напрыклад, былы генеральны дырэктар «Юнацтва» Эдуард Зотаў быў змешчаны пад варту па падазрэнні ў крадзяжах шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Былі і іншыя крымінальныя справы. Частка будматэрыялаў, што прызначаліся на «Чыжоўку-Арэну» невядомым чынам аказалася на лецішчах чыноўнікаў. Кралі ў святая святых.

Дарэчы, дакладны кошт «Чыжоўкі-Арэны» не называецца па сёння. Першапачаткова пісалася пра 950 мільярдаў рублёў (гэта цана ўсяго шасцідзесяці сайтаў прэзідэнта краіны). Прычым, 95 мільярдаў у будаўніцтва (па курсе таго часу 30 мільёнаў даляраў) унёс добраахвотна-прымусова дырэктар рынка «Ждановічы» Яўген Шыгалаў, якога толькі адпусцілі з СІЗА. Праўда, потым на будаўніцтва дадавалі яшчэ 180 мільярдаў.

Афіцыйна пляцоўка будзе належаць мінскаму «Юнацтву», але для каманды было праблемным збіраць аншлагі нават на не вельмі вялікім катку на Прытыцкага, што казаць пра «Чыжоўку-Арэну». Адзіны варыянт — пераход у Кантынентальную хакейную лігу. Прэзідэнт КХЛ Аляксандр Мядзведзеў ужо казаў, што не супраць таго, каб у лізе былі два беларускія клубы.

Праўда, КХЛ — гэта не самая танная цацка. Напрыклад, толькі зарплатны бюджэт мінскага «Дынама» па самых сціплых падліках складае 9 мільёнаў даляраў. І гэта не дазваляе «зубрам» запрашаць добрых легіянераў. У гэтым чэмпіянаце «Дынама» на апошнім месцы ў сваёй канферэнцыі і на другім з канца сярод усіх каманд.

Адкуль могуць узяцца грошы на «Юнацтва» ў такой сітуацыі, не зусім ясна.

У інтэрв'ю tut.by генеральны дырэктар «Юнацтва» Аляксей Пракаповіч паведаміў, што ўтрымліваць «Чыжоўку-Арэну» нятанна. У год на электраэнергію будзе сыходзіць каля 5 мільярдаў рублёў, а на цяпло — 15.

«Чыжоўку-Арэну» таксама плануюць выкарыстоўваць для запісаў тэлевізійных праграм, канферэнцый. Будуць там фітнэс-цэнтр, некалькі рэстаранаў, гульнявая зала з аўтаматамі. У вялікай арэне будзе гандлёвая зона. Дакладней, яна ўжо ёсць, але прадавачкі скардзяцца, што ў дні, калі няма матчаў, ніхто з пакупнікоў не завітвае на арэну.

**Зміцер Панкавец**

# Аляксандр Глеб перайшоў у турэцкі «Каньяспор»

Найлепшы беларускі футбаліст апошніх гадоў падпісаў **кантракт на паўгода**.

Да гэтага Глеб правёў паўтара сезона у складзе барысаўскага БАТЭ, з якім выйграў два чэмпіянаты Беларусі. У міжсезонні з'яўляліся навіны пра пераход Глеба ў турэцкі «Антальяспор» (не сышліся ў цане) і французскі «Нант».

«Каньяспор» — гэта не лідар турэцкага першынства. Упершыню ў турэцкай Суперлізе каманда згуляла ў 1988 годзе, але пасля гэтага тройчы вылятала ў дывізіён ніжэй. Ніводнага разу каманда не падымалася на п'едэстал гонару. Найвышэйшае месца — сёмае.

Выступае каманда ў зялёна-белай ці проста белай форме. У гэтым сезоне пакуль займае 13-е месца з 18-ці каманд.

Глеб кажа, што ў Турцыі яго сустракалі ў аэрапорце "як касманаўта".

Што тычыцца горада Коны, то месціцца ён у цэнтры краіны, да мора не вельмі блізка. Насельніцтва — крыху больш за мільён. Горад узгадваўся яшчэ ў Бібліі.

За сваю кар'еру Глеб павыступаў у такіх камандах: БАТЭ, нямецкія «Штутгарт» і «Вольфсбург», англійскія «Арсенал» і «Бірменгем», іспанская «Барселона», расійскія «Крылы Саветаў».

У гэта міжсезонне ў Турцыю перабраўся яшчэ адзін былы гулец БАТЭ Арцём Радзькоў, які падпісаў кантракт з «Генчэлербірлігі» з Анкары.

**ЗП**





## In memoriam

### Эйсэбіа



Легендарны футбаліст памёр на 72-ім годзе жыцця. У Партугаліі ён лічыўся нацыянальным героем, у краіне нават абвясцілі трохдзённую жалобу.

Эйсэбіа паходзіў з Мазамбіка, тагачаснай калоніі Партугаліі. Гэта была класічная гісторыя, як хлопчык з сацыяльных нізоў дасягнуў поспеху. Бацька Эйсэбіа — ён быў белым ангольцам — памёр, калі сыну было ўсяго 8 гадоў. Гадавала адна маці.

У 18 гадоў Эйсэбіа пераехаў у Партугалію, дзе доўгіх 15 гадоў гуляў за лісабонскую «Бенфіку». Выніковасць «Чорнай пантэры», як называлі Эйсэбіа журналісты, перавышала адзін гол за гульню.

Аднойчы ён змог выйграць Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. Пазней — як адрэзала. Гаварылі нават пра праклёнцце трэнера Белы Гутмана, які сказаў, пакідаючы каманду, што за 100 гадоў «Бенфіка» ніколі не выйграе турнір. У 1990-м Эйсебіа нават прыязджаў на магілу Гутмана і прасіў зняць праклёнцце, але і тады «Бенфіка» прайграла ў фінале «Мілану».

Эйсэбіа называлі гразой камуністаў. Пасля Чэмпіянату свету 1966 года гэтага партугальскага гульца добра запомнілі ў Савецкім Саюзе, бо менавіта самаадданая гульня і дубль Эйсэбіа перашкодзілі СССР заняць трэцяе месца, не дапамог нават Леў Яшын. А перад гэтым выбіў з турніра надзвычай моцную ў той год зборную КНДР.

Савецкая прэса ўвесь час падкрэслівала, што Эйсэбіа родам з Мазамбіка, а не Партугаліі, тым самым дыстанцыявалі яго ад правага рэжыму Салазара.

Апошнія гады жыцця ён прадстаўляў партугальскі футбол у свеце.

### Мікалай Петрапаўлаўскі



Вядомы каментатар памёр 29 снежня на 73-м годзе жыцця. Ён быў родам з Краснадара. У Мінску яго пакінуў працаваць асабіста кіраўнік БССР Пятро Машэраў, бо ў Петрапаўлаўскага не было беларускага акцэнта. «Беларускую мову я так і не вывучыў. Хацця, калі праходзіў практыку ў вясковай бальніцы, то прачытаў усяго Уладзіміра Караткевіча. Ён пішa вельмі прыгожа. Мне падабаецца беларуская мова, яна вельмі мілагучная», — казаў у адным з інтэрв'ю Петрапаўлаўскі.

Малодшаму пакаленню ягоны голас вядомы па трансляцыях «Спартландыі». А яшчэ менавіта пад каментарый Мікалая Петрапаўлаўскага найбольшых поспехаў дасягнулі беларускія тэнісісты, калі сенсацыйна трапілі ў паўфінал Кубка Дэвіса.

### Ілля Цымбалар



Найлепшы футбаліст Расіі 1995 года памёр у Адэсе ва ўзросце 44 гадоў. Зорны час Цымбалара прыйшоўся на пачатак 1990-х, калі ён бліскуча гуляў за маскоўскі «Спартак». У постспартакаўскі перыяд ледзь не перайшоў у мазырскую «Славію», але заўпарцілася жонка. Апошнія гады меў праблему з алкаголем. Жыў замкнёна ў роднай Адэсе. Сын Цымбалара паведаміў, што ад «Спартака» на пахаванне нават не перадалі вянок.




Сяргей Гудзілін

**Туман у Мінску. На Новы год беларусы так і не дачакаліся снегу. Цяпер у Беларусі стаіць анамальна цёплая для пачатку студзеня надвор'е. У бліжэйшы тыдзень маразоў таксама не прадбачыцца.**



**Судна «Акадэмік Шакальскі», якое 24 снежня засела ў ільдах ля берагоў Антарктыды. На ім знаходзілася 74 аўстралійскіх навукоўцаў, турыстаў і членаў экіпажа. Пасля таго, як да карабля не змог прабіцца ледакол Aurora Australis, усе пасажыры з судна былі эвакуіраваныя. 22 члены экіпажа застаюцца на борце, чакаючы спрыяльных умоў надвор'я.**



Народныя навіны Віцебска

**У Віцебску паставілі ёлку-інваліда. Выгляд ялінкі на 1-й Шумілінскай вуліцы прымушае ўсумніцца, што яна шмат радасці нясе дзецям.**




**У Мінску ад 1 студзеня ўвялі новы спосаб аплаты за праезд у грамадскім транспарце. З'явіліся новыя талоны і новыя электронныя кампосцеры — як у Польшчы ці Літве. На талоне прабіваецца дата, месяц, час, від і нумар транспарту.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Мітрапаліт Павел — Лукашэнку:

— Ілі вы мяне прымаеце, ілі адключым кранік з благадаццю.

* * *

Калі няма ні эліна, ні юдэя, то чаму мітрапалітамі ў Беларусь прызначаюць выключна расейцаў?

* * *

«Дзеда Мароза — у кожны дом!» — сказаў п'яны качагар, адключаючы ацяпленне.

* * *

Лукашэнка абвясціў 2014-ы Годам гасціннасці. Баўмгертнер не дасць зманіць!

***

Наступны год будзе абвешчаны Годам гасціннасці. Гасціннасць павінна быць жастачайшай.

* * *

Адэса. Дзерыбасаўская.

— Сарачка, ты чула апошнюю прамову Януковіча?

— Ой, не радуйте меня. Шо, такі последняя?

* * *

Першы раз у сваім жыцці я не глядзеў навагодняга звароту прэзідэнта. Спадзяюся, як сустрэнеш Новы год, так яго і правядзеш.

* * *

Учора загадаў навагоднеяе жаданне, а сёння губа трэснула. Намёк зразумелы.

## «НН» сто гадоў з вамі

### На Новы год

Год настаў, год мінуў — нічагутка,
А ты стаў на парозе ды стой
І з трывогай пытай, ці ёсць чутка
Аб зямельцы, аб праўдзе святой...

Атупелі мы ў нашай нягодзе, —
Холад, голад, гарэлка, суды...
Чым пацешыш ты нас, Новы годзе?
Што нясеш ты нам, год малады?

**Якуб Колас**

**«НН». №1. 1914.**

**Фітнэс у Купалавым садзе.** Дом, у якім жыла Купалава сям'я, збіраюцца разбурыць, каб збудаваць звычайны шматпавярховік. У гэтай камяніцы на вуліцы Румянцава, 7, насупраць пасольства Польскай Рэспублікі, дажывала свой век Уладзіслава Францаўна. Тут бывалі Янка Брыль, Валянцін Таўлай, Сцяпан Александровіч. Тут задумляўся і ствараўся музей Янкі Купалы.

**«НН». №1. 2004.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 07.01.2014.
Замова №170.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14001